«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | №11 (183), лістапад 2021 года




# Літаратурная Беларусь

Выпуск №11 (183) (лістапад)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

novychas.online


Змест





Фота gants-region.info

Васіль ДЭБІШ

**10 снежня 2021 года вядомаму беларускаму пісьменніку Алесю Каско споўнілася б 70 гадоў. На жаль, цяжкая хвароба заўчасна абарвала яго жыццё...**

# Кругабег

## Светлай памяці Алеся Каско (1951—2017)

Алесь Канстанцінавіч нарадзіўся ў вёсцы Чудзін Ганцавіцкага раёна 10 снежня 1951 года. Скончыў філфак Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А. Пушкіна, працаваў настаўнікам у роднай вёсцы, карэспандэнтам Жабінкаўскай раённай газеты «Сельская праўда», рэдактарам на Брэсцкай абласной студыі тэлебачання, старшынём абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Аўтар кніг паэзіі «Вестка» (1979), «Скразная лінія» (1982), «Набліжэнне» (1989), «Час прысутнасці» (1994), «45» (1996)», «Трохкроп'е» (2001), «Нічога больш» (2011), «Прыадкінуты небасхіл» (2012), «Межавыя знакі» (2014), «Кругабег» (пасмяротная) (2018), кніг для дзяцей «Два сонцы» (2004), «Чыстага ўсё нячыстае баіцца» (2007). Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова, абласной прэміі імя Уладзіміра Калесніка. Жыў у Жабінцы. Памёр 25 кастрычніка 2017 года...

Ён жыў самаададна і самаахвярна. Непрыручаны і ахвярны — быў пажаданы і невыносны. Рыцар паэзіі. Яму б нарадзіцца ў іншы час, у пару рыцарскіх турніраў і паходаў, калі такія паняцці, як гонар, сумленне, любоў і нянавісць ляжалі ў аснове ўсяго жыццёвага ладу непахісных абаронцаў сям'і і Айчыны.

Чытанне яго вершаў — асаблівая асалода размовы з палеткамі і лясамі, сінім небам і рэчкай, размова з часам і прасторай, дзе «Дол спапялёны. І ў чэзлай траве. / Неба пустое — без жаўрукоў, / жыта сухое — без васількоў...». Абазначыўшы яшчэ на зары паэтычнай творчасці сваім жыццёвым крэдам служэнне Радзіме і прыгажосці, паэт не здрадзіў яму ні паэтычным радком, ні кампрамісным учынкам.

Яго не стала. І ў кватэры зрабілася няўтульна, асірацелі сцены, якія спрабавалі адгарадзіць яго ад свету, асірацела Беларусь без яго напорыстасці, невыноснасці, без яго самога — абпаленага, незахінутага, з агаленым нервам.

Дзень развітання з паэтам... Ясна памятаю. Я сядзеў каля труны. Твар Алеся быў нязвыкла спакойны, прымiраны, ціхі і строгі. Жалобны момант, здавалася, узвялічваў асобу творцы, падымаў яе над светам мітусні і жыццёвых звяг. Людзей было шмат. Усе стаялі моўчкі. Ніхто не плакаў, хіба снежанькі сівер за акном, бо памёр яго брат. Памёр не ад анкалагічнай хваробы, як пазначана ў даведцы аб смерці, а, на думку родных, сяброў, проста знаёмых — ад таго, што вельмі блізка да сэрца прымаў клопаты іншых людзей, балюча рэагаваў на ўсе заганы і несправядлівасці гэтага свету.

*Творцам сам выток і вынік,*
*каб душу — ці быць, ці не! —*
*з фарбамі змяшаць і выняць*
*ды распяць на палатне.*

Мудрасць і досвед, вынесеныя з пражытага ім часу, паэт пазначыў у сваіх вершах філасофіяй светаіснавання:

*Гэта пэўна, гэта існа:*
*свет не згіне, век міне;*
*гэтым далям, гэтым высям*
*існаваць пасля мяне.*

У Алеся Каско было многа сяброў і проста знаёмых. Але, на маю думку, у душы паэт заставаўся адзінокім. Паглыбленым у самога сябе. Ён існаваў у іншасвеце. Худы і тонкі, з нязменнай цыгарэтай у руках. Курыў часта і падоўгу, увесь час аб нечым думаючы. Што яго непакоіла? Пра што згадваў? Па чым смуткаваў?..

Ён быў шчыры і, галоўнае, прынцыповы. А хвароба давала пра сябе знаць усё больш і больш. Дарэшты схуднелы. Невылечна хворы. Адзінокі. Але недасяжна велічны ў духоўным парыве.

Залатазвонам гучыць яго голас у апошнім прыжыццёвым зборніку:

*Як бы доўга ні жыць — не дажыць*
*да канца... Зноў і зноў паўстае перад намі*
*грыўка спелых жытоў — недажын,*
*што асыплецца ветрам,*
*прыб'ецца дажджамі.*

*От бы ўсё — ад зярнят да расы —*
*зберагчы і напоўніцу ўсім наталіцца!*
*Дакахаць, дапісаць... Папрасіць*
*даравання ва ўсіх, з паміраннем змірыцца.*

Паэтычны талент Алеся Каско — відавочны. Радкі яго вершаў шчырыя і натуральныя. Гэта самабытнае стылістычнае ткацтва, у якім увасоблена глыбокая філасофія нашага сённяшняга зямнога жыцця — вобразная, маляўнічая, яркая праўда роднага краю, дзе кожнае слова прапушчана праз уласнае сэрца, народжана душэўным і фізічным болем.

Паэзія Алеся Каско самай высокай пробы, іскрыста-імгненная, нібы сполахі маланкі, што выхопліваюць са змроку невясёлыя малюнкі нашай зямной долі. Вершы Алеся Каско своеасаблівыя, разняволеныя, паяднаныя з праўдай жыцця. Творчую індывідуальнасць паэта ахарактарызаваць складана. Постаць ягонага лірычнага героя надзвычай супярэчлівая: ён нязмушана-далікатны, чуйны, даткліві. А то і выключна жорсткі. Шчыры, як дзіця, і легкадумна-хітраваты. Ён шматаблічны і непрадказальны.

*Яшчэ над першым словам біцца:*
*і потым грунт яго краціць,*
*і корань вынатужваць, быццам*
*пад ім прамаці ўсіх крыніц —*
*радкоў глыбокіх, свежых, важкіх,*
*што ад чакання знемаглі,*
*каб выплыніць табе на аркуш*
*і золата, і соль зямлі...*

Паэзія Алеся Каско — рэч далікатная, дзе не ўсё можна пакратаць, агледзець з усіх бакоў. Яна як завеса марыва над затокаю, такога густога, што, колькі не ўзірайся, так і не ўбачыш услаўленага безліччу пёраў зваблівага аквамарыну.

*Першы прыцемак, трымценне*
*чашы скрушнае, а ў ёй*
*ледзь улоўны плыўкі цень мой*
*ды мінулае маё.*

*Ды — з завеі. З кругабегу*
*заблукалыя ў акно —*
*камячкі сівога снегу*
*апускаюцца на дно.*

*Набрыняе. Перабродзіць*
*разам з імі мой настрой.*
*І змяркальны дзень народзіць*
*памяну журбой густой.*

*Ледзь прыгублю — вее дымам,*
*над якім нябёсаў сінь*
*абяцала хоць на момант*
*хоць на хвілю ўваскрасіць.*

*Зараз кволіцца ў спагадзе*
*і знікае, не ўтрымаць,*
*просінню апошняй радзіць*
*мне і памяць знебываць.*

*З новага адліку часу*
*рэдка будзе сінь відна,*
*снег запоўніць гэту чашу.*
*выпітую мной да дна.*

Шчыміць сэрца. Цяжка ад таго, што больш не адчуем поціск яго рукі, не пачуем разумную параду, не зможам падзяліцца сваімі радасцямі і сумненнямі. Вечная светлая памяць!

*Вершы Алеся КАСКО чытайце на старонцы 5.*

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 11 (183), лістапад 2021 года

# Каралішчавічы, лес…



Алесь ЖУК

Упершыню ў Дом творчасці пісьменнікаў «Каралішчавічы» патрапіў будучы студэнтам у 1970 годзе дзесьці ў канцы лютага ці на пачатку сакавіка.

З Юркам Голубам пражылі мы ў гасцінным драўляным дамку два тыдні. Здарылася так, што на тую зіму я застаўся бяздомным пасля вяртання з вёскі з перадыпломнай практыкі. Жыў "зайцам" у інтэрнатах то на Паркавай магістралі, то на Свярдлова, дзе Рыгор Семашкевіч, які пасля жаніцьбы пасяліўся на прыватнай кватэры, трымаў за сабой месца.

"Зайцавалі" мы весела, бо падабралі да сябе ў пакой і Міхася Стральцова, які ў той час перажываў не лепшыя часіны ў сваім жыцці. Аднак з надыходам вясны набліжалася і абарона дыплома, трэба было пісаць дыпломную работу. Вось тады мы з Юркам і ўспомнілі, што ходзім у маладых пісьменніках, а маладым у міжсезонне даюць бясплатныя пуцёўкі ў Каралішчавічы.

У Саюзе пісьменнікаў на Энгельса, 9, былым «кубэўскім» доме, сакратар Саюза пісьменнікаў Іван Пятровіч Шамякін учыніў на нашых заявах адну рэзалюцыю на дваіх:

«Дазволіць паэтам Голубу і Жуку пуцёўкі ў Дом творчасці тэрмінам на два тыдні».

Падарыла «Каралішчавічы» Саюзу пісьменнікаў Беларусі кіраўніцтва рэспублікі. Пабудаваны гэты лясны ўтульны двухпавярховы дамок быў палоннымі немцамі як паляўнічая дача, распараджаўся якой Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР. Ад горада на той час «Каралішчавічы» былі кіламетраў за сорак, і дзічыны там хапала. Ды яшчэ і ў сямідзясятыя ў каралішчавіцкім лесе можна было сустрэць і ласёў, і дзікоў. Перастаў домік быць паляўнічай дачай пасля таго, як старшыня прэзідыума Нічыпар Наталевіч патрапіў у неміласць і быў вызвалены ад займаемай пасады.

У тыя пасляваенныя гады нешматлікаму Саюзу пісьменнікаў гэта быў сапраўдны падарунак. Летам у «Каралішчавічы» можна было прыехаць разам з дзецьмі, ды і разваротлівыя кіраўнікі тагачаснага Літфонда ўмелі клапаціцца пра тое, каб болей-меней накарміць пісьменнікаў, здабывалі не толькі бочкі з селядцамі, а нават і япручка з суседняга калгаса. Мае аднагодкі і цяпер з цеплынёю ўспамінаюць тыя каралішчавіцкія наведванні, памятаюць, як на прага́ліне перад будынкам вечарамі распальваў вогнішча Міхась Лынькоў і частаваў дзетвару цукеркамі. Прыязджаў у «Каралішчавічы» папрацаваць і пахадзіць па лесе Якуб Колас.



Фота Аксаны Данільчык

Ваколіцы Каралішчавічаў

У час майго першага наведвання пра гэта сведчыла мемарыяльная дошка на будынку і старая яліна па дарозе ў сталоўку, лавачка пад ёй, на якой Якуб Колас любіў адпачываць. Усё гэта было абгароджана тоўстым дэкаратыўным ланцугом.

Калі стаў членам Саюза пісьменнікаў, не меў асаблівa часу ездзіць у «Каралішчавічы», ды і патрэбы такой не было, і пацясняць старэйшых пісьменнікаў, якія лічылі абавязковым пабыць у Доме творчасці і адмовіць якім у пуцёўцы вясной, летам і напачатку восені было проста немагчыма. Нават калі адкрыліся магчымасці набываць пуцёўкі ў Дамы творчасці ў Кактэбель, у Дубулты, у Гагры, а потым і ў Піцунду, старэйшыя пісьменнікі ўсё роўна ехалі ў Каралішчавічы. Тут у іх было сваё кола, свае зацятыя паядынкі ў більярд, ды і ўнукаў таксама можна было вывезці на прыроду: акрамя галоўнага корпуса к гэтаму часу было пабудавана некалькі летніх фінскіх домікаў.

Яны нават мелі і ўласныя імёны — тых, хто займаў іх улетку.

Аднойчы здарылася пабыць мне ў Каралішчавічах дзесьці ў верасні. Надвор'е было цудоўнае, ды і кантынгент, як гаворыцца, для мяне ўражлівы. З акна майго пакойчыка на верандзе можна было пабачыць, як выходзіў на прагулянку Ніл Гілевіч, з дыхтоўным кіем, велічны, няспешны, а следам з ім выбіраўся з арэхавым кіёчкам Вячаслаў Адамчык. Ён кіраваўся ў лес за шашу, дзе можна сустрэць і паглядзець на лася, якога аднойчы Вячаслаў Уладзіміравіч паспрабаваў напалохаць: махнуў кіёчкам і паспрабаваў ступіць да звера. У адказ лось нагнуў галаву і грабянуў зямлю капытом. Давялося Вячаславу Уладзіміравічу спачатку адступаць, а потым, азіраючыся, уцякаць з задарожнага лесу. Расказваў мне пра гэта Вячаслаў Уладзіміравіч з нейкай гарэзлівай хлапчукоўскай вясёласцю, пабліскваючы залатым зубком. У тую восень ён пісаў «Чужую бацькаўшчыну».

Размашыста, таксама з кіем, выходжваў свае кіламетры Сяргей Грахоўскі. З Сяргеем Іванавічам мне адвячоркамі даводзілася прагульвацца, і няспешна. Ён расказваў пра перыпетыі свайго жыцця, пра сяброў-пісьменнікаў, рэпрэсаваных і знішчаных, пра сваю дружбу з братамі Шашалевічамі. Тады былыя вязні Гулагу не былі ўпэўнены, што дажывуць да таго часу, калі пра тое можна будзе напісаць. Сяргей Іванавіч дажыў і напісаў.

Часам атрымоўваліся і прагулянкі агульнай кампаніяй. Тады былі суцэльныя жартачкі, вясёлыя расказы пра амаль неверагодныя прыгоды з пісьменніцкага жыцця.

Сведкам таго, што гэтыя расказы не чыстыя выдумкі, быў і выпадак, які перажылі мы з Юркам Голубам у сваё першае наведванне Каралішчавіч. У той час там жыў Піліп Сямёнавіч Пестрак, прыехаў ён надвячоркам. Яго ўжо з нецярпеннем чакаў Васіль Бурносаў. Вечарам яны пачалі адзначаць прыезд Піліпа Сямёнавіча. Адзначалі грунтоўна, амаль ці не да ранку. Пакой Піліпа Сямёнавіча быў праз сценку з пакоем Юркі. Таму міжволі давялося чуць, як і спрачаліся яны, а потым і песні спявалі і нават пускаліся ў скокі. А ў сталоўцы мы сядзелі за адным сталом з Пестраком, насупраць яго. Называў ён нас абагулена — філфакі. Таго ранку Піліп Сямёнавіч у сталоўку не прыйшоў. Прыйшоў Бурносаў, нешта крыху пакляваў сам, і ў талерцы, накрытай другою талеркаю, панёс сняданак у пакой Піліпу Сямёнавічу. Сам Пестрак прыйшоў толькі на абед. Тут трэба сказаць, што якраз у гэты час на старонках «ЛіМа» ішла вельмі вострая дыскусія, у самым разгары была непрымірымая спрэчка Піліпа Пестрака і Уладзіміра Карпава — хто з іх сапраўдны раманіст, а хто не.

Піліп Сямёнавіч павітаўся, сеў і ў чаканні стравы вырашыў патлумачыць нам прычыну сваёй ранішняй адсутнасці.

— Ведаеце што, філфакі, я сёння ўсю ноч чытаў раман Карпава. Які жах! Дасюль галава аж трашчыць!

Не ведаю, як толькі мы ўтрымаліся ад рогату і не спаўзлі пад стол, потым доўга яшчэ жартавалі пры адпаведнай нагодзе: а ці не пайсці нам «пачытаць» Карпава…

Але сапраўдныя мае Каралішчавічы пачаліся пасля таго, як я адкрыў іх для сябе зімою, дзесьці напрыканцы лютага — пачатку сакавіка. Тады яшчэ зімою ў Стайках трэніраваліся лыжнікі, і па каралішчавіцкім лесе імі былі накатаны шматкіламетровыя лыжні, а на іх такія крутыя пагоркі, не толькі роўныя трасы. І жывая была яшчэ традыцыя старэйшых пісьменнікаў хадзіць на лыжах, аматарам якіх быў той жа Грахоўскі. Міколу Паўлавіча Лобана памятаю на лыжах, не кажучы пра таго ж Бураўкіна і іншых маладзейшых. Ды тады яшчэ і ў самім Доме творчасці быў запас лыжаў, праўда, старога веку, з мяккімі мацаваннямі. Таму сапраўдныя аматары прывозілі лыжы з дому.

І цяпер успамінаю тыя каралішчавіцкія лыжы як нешта самае светлае ў сваім жыцці, як коней дзяцінства, на якіх мы хлапчукамі ляталі па палявых дарогах. І самыя яркія — гэта начныя праходкі на лыжах. Поўня, відно, як удзень, але ж не параўнаеш дзённае святло з месячным. Марозік. Лёгенькі іней на галінках. Цішыня і відната, і ты адзін, і лес, і снег. Марознае паветра балюча-прыемна поўніць грудзі, а калі ўніз з пагорка — нешта сваё шэпча на вуха вецер.

У зімовыя вечары неяк асабліва цёпла і ўтульна было ў драўляным доміку, павявала цяплом вясковае хаты. У холе другога паверха стаялі паўз сцены канапы, крэслы, на стале вялікі электрычны самавар. У гэтым холе традыцыйна збіраліся паглядзець праграму «Час» амаль усе насельнікі. Была такая завядзёнка: абавязкова глядзець праграму «Час», а пасля піць чай і проста гаварыць ці слухаць цікавых людзей, да прыкладу, акадэміка Турбіна.

Прэстыжна было прыязджаць у Каралішчавічы, калі былі яны яшчэ ў сіле.

Пабудавалі лазню, у якую пісьменнікі прыязджалі з Мінска. Ды і працавалася там добра, калі прыязджаеш на пару тыдняў і яшчэ адпачываеш на адзіноце.

Аднак час і прагрэс рабілі сваю справу. Усё больш і больш прываблівалі пісьменнікаў сучасныя камфортныя Дамы творчасці, ды і ў нас пабудавалі сучасны камфортны Дом творчасці «Іслач». Як гаварылася, усесаюзнага кшталту, хаця вялікага наплыву адпачываючых з братніх рэспублік не атрымалася.

Масква надалей адмаўлялася фінансаваць Каралішчавічы. А з пачаткам будаўніцтва новага Дома творчасці пачаўся заняпад старога. На пасады дырэктара траплялі выпадковыя людзі, перастала працаваць лазня, пачаў разбягацца штат.

У апошні раз я быў у Каралішчавічах ці не ў апошнюю зіму іхняга існавання. Там было ўжо пустэльна, здаецца, прыехалі толькі Рыгор Няхай, Авяр'ян Дзеружынскі, магчыма, Сяргей Грахоўскі. І Мікола Улашчык. Калі я спытаўся ў Мікалая Мікалаевіча, чаму ён тут, а не ў той жа «Іслачы», ён патлумачыў, што якраз піша кнігу-даследаванне пра сваю родную вёску Віцькаўшчына, і тут яму больш імпануе працаваць.

З усяго штату і засталося толькі што сястра-гаспадыня Данута ды малады вусаты мужчына-кухар. Ён сам калоў дровы, распальваў пліту, падаваў нам на стол, мыў посуд. Аднак у будынку было напалена, працаваць было можна, і я дасядзеў да канца тэрміну, хаця лыжы для мяне ў Каралішчавічах былі скончаны: спартсмены цяпер ужо трэніраваліся ў Раўбічах, давялося самому накатаць невялікую лыжню ўкруга доміка па лесе, але гэта было ўжо зусім не тое…

Цяпер на тэрыторыі былога Дома творчасці працуе новы, сучасны дом адпачынку «На ростанях», драўляны двухпавярховы домік з мемарыяльнаю дошкаю захаваўся, у ім нават выдзелены два пакойчыкі пад музейную экспазіцыю, прысвечаную Якубу Коласу.



Фота Аксаны Данільчык

Ваколіцы Каралішчавічаў

# Васіль БЫКАЎ: «Я пісаў праўду»

**«Літаратурная Беларусь» працягвае друкаваць фрагменты гутарак Юрася ЗАЛОСКІ з Народным пісьменнікам Беларусі Васілём БЫКАВЫМ, — на гэты раз пра творчую аўтабіяграфію, ідэалогію, знішчэнне беларускага сялянства, драматызм часу і лёс літаратуры.**

***Юрась ЗАЛОСКА: — У чэрвені 1994 года з нагоды свайго юбілею Астанкінскі тэлеканал узяў у Вас інтэрв'ю, у каторым Вы, паміж іншым, так сказалі пра сваю творчасць: «Калі я пачынаў сваю літаратуру, я не быў ёй навучаны, таму маім пяром вадзіла рука младзенца. У той час, як многія мае калегі прайшлі добрую вывучку — літаратурную, ідэалагічную, партыйную, — і хоць яны яе эксплуатуюць дагэтуль і дасягнулі, можа быць, пэўных вяршыняў у гэтай літаратуры і лаўраў, ды ўсё ж, я так мяркую, яны пазбавіліся нейкай праўды, каторая неабходная перадусім для рэалістычнай літаратуры. Яны сацрэалістамі аказаліся выдатнымі, выхаванымі, чаго б я не хацеў прызнаваць за сабой...». Ваша адметнасць на фоне саветызаванай беларускай літаратуры — хутчэй выключэнне з правіла, нейкі сімвал. Ці схільны Вы бачыць у тым, як склалася ваша творчая і асабістая біяграфія, «шчаслівае здарэнне», наканаванне лёсу?***

Васіль БЫКАЎ: — Некалі, калі мяне тут грамілі ў ЦК, была такая сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Чагіна, каторая, «тлумачачы» мае «скажэнні» вайны і ўсё такое, ставіла мне ў віну тое, што я, маўляў, і ВПШ (Вышэйшай партыйнай школы. — **Рэд.**) не скончыў, пагэтаму адкуль жа ў мяне могуць быць «правільныя» погляды на вайну і многія іншыя рэчы...

Дык вось, яшчэ тады мне такая думка прыйшла, што ў гэтым, можа быць, і мая перавага, што я не быў заангажаваны ў ідэалогію, у той час як многія не толькі афіцыйныя, афіцыёзныя пісьменнікі, але і некаторыя мае сябры і паплечнікі былі ёй заангажаваныя, пачынаючы ўжо са школы, з універсітэта. Яны вельмі добра ведалі, як трэба пісаць, як развіваць сюжэт, якія ідэі праводзіць, карацей кажучы, ведалі ўсю гэту тэхналогію. І яны знаходзіліся ў яе палоне. Падсвядома. Хоць яны, дапусцім, часам былі з ёй нязгодны, але ж яны ведалі, што ёсць цэнзура, рэдактура, і пагэтаму іх творы праходзілі лёгка, за іх хвалілі, прымалі ў Саюз пісьменнікаў і г.д. У мяне таго не было. Я, па-першае, многіх рэчаў сапраўды не ведаў, часткова прастадушна не ведаў, гэта абсалютна, а па-другое, — і не хацеў ведаць. Я па наіўнасці сваёй лічыў, што сацрэалізм — гэта ўсё-такі найперш рэалізм. Некалі ўсе пісьменніцкія з'езды, у тым ліку саюзныя маскоўскія, заклікалі: «Трэба пісаць праўду». Вот я і пісаў праўду. Хаця і рана зразумеў, што гэта — самае небяспечнае. Таму што самы праўдзівы мой, аўтабіяграфічны твор — «Мёртвым не баліць» — атрымаў самы вялікі разнос і дваццаць гадоў пасля не выдаваўся...

Тады я зразумеў, што вот іменна гэта самае небяспечнае — праўда. І для мяне на пачатку маёй творчасці паўстала дылема — альбо далей пісаць праўду, і я, натуральна, не змог бы нічога надрукаваць, і быць «недрукавальным», альбо пераходзіць у іншую сферу, сферу, так бы мовіць, «сачыніцельскую», і знаходзіць нейкі кампраміс паміж магчымасцямі і праўдай жыцця. Канешне, той кампраміс даваўся вельмі цяжка (іранічна ўсміхаецца); праўда з мяне ўсё-такі вылазіла, лезла з усіх маіх твораў так ці інакш. Мабыць, я арганічна быў няздольны — у сілу свайго характару, можа быць, — да штучнасці, хлусні, да канструявання таго, што было патрэбна начальству.

Ну а самае галоўнае ў маім лёсе, калі ўжо пра гэта гаварыць, — што я ўсё-такі быў падтрыманы «Новым миром» і Аляксандрам Твардоўскім. Тут, у Беларусі, мне, канешне, вельмі хутка заткнулі б рот, і я б нічога не надрукаваў. А там раптам, на пачатку сваёй творчасці, пачынаючы з 1966 года, я знайшоў у гэтым выдатным расійскім часопісе выдаўца, знайшоў падтрымку, знайшоў сабе Твардоўскага і рэдакцыю. Гэта былі рускія дэмакраты, інтэлігенты, каторым я, безумоўна, удзячны, безумоўна... І пасля, у 80-я гады, калі адбылася пераацэнка маёй творчасці і мяне пачалі ўзнагароджваць, — дык не таму, што тут нехта штосьці зразумеў. Гэтае разуменне ішло з Масквы. Там мне далі прэмію — адну, пасля другую. Я не ведаю ўсёй кухні, але я так адчуваў, што тамтэйшы, маскоўскі ЦК паказаў нашаму на карэкціроўку пэўных адносін да Быкава. І яны змянілі да мяне свае адносіны.

У Маскве маю канцэпцыю, асабліва ваенных твораў, падтрымала дэмакратычная літаратурная эліта, шмат якія знаныя крытыкі — самыя знаныя, і самы знаны часопіс. І беларусы былі змушаны з гэтым лічыцца... Але, на жаль, некаторыя рэчы так і пайшлі ў збор твораў пакарэжанымі, не з тымі канцоўкамі...

***— ?***

— Надта «абскубаныя», у тым ліку і «Мёртвым не баліць». Паколькі гэта друкавалася многа разоў і разышлося на іншых мовах, я не палічыў патрэбным вяртацца назад і нешта аднаўляць. Ды і як аднаўляць? Па-першае, у мяне ўжо не засталося саміх арыгіналаў; пры шматлікіх пераробках, перадрукоўках і карэктурах ужо не знойдзеш, дзе канцы, дзе пачаткі. Да апошняга ж часу ўсё здымалі «вострыя месцы»... Вот як гэта ўсё рабілася.

***— У Вас практычна няма твораў пра сучаснасць, толькі некалькі апавяданняў. Гэта ад чаго — ад эстэтычнага непрыняцця, так бы мовіць, бягучай рэчаіснасці?***

— Мабыць, так. Мне ўсё-такі больш цікавае, як гэта заўсёды бывае, кожнаму чалавеку, — мінулае, а не сучаснае. Сучаснае, яно ў стане нейкай скаламучанасці, як мутная лужына, у каторай нічога не відаць. А калі нешта адстаіцца, то ў лужыне відаць гразь, чарвякі, ужо цікавей становіцца. Так, відаць, і для пісьменніка.

Ну і, пасля, я ўжо прывык глядзець туды, і не толькі да вайны, але, скажам, і ў трыццатыя гады. У трыццатыя гады я быў хлопец, хадзіў у школу, яшчэ малы быў, але, тым не менш, мне там бачыцца вялікі драматызм нашага мінулага, там шмат якія разгадкі і нашага часу, і ранейшага. Гэта быў вельмі драматычны час.



Фота svaboda.org

***— Чым жа ён драматычны?***

— На сялянскай Беларусі тады нішчыўся цэлы клас — сялянства. Менавіта тады ён нішчыўся. І гэта было так балюча, прычым жа не толькі перапісвалі з аднаго саслоўя ў другое, але сапраўды нішчыўся, фізічна вынішчаўся. Гэта як жа можна было ў Беларусі жыць сялянам, загнаным у калгасы, у якіх прымушалі працаваць цэлы год і нічога не плацілі? Толькі 40 сотак агародаў было, і з гэтага гарода трэба было ўсё дзяржаве аддаць, і падаткі, і малако, і мяса, і яйкі, абсалютна ўсё здавалі. Купіць што-небудзь не было за што, таму што ніхто не зарабляў грошай, і не было дзе купіць, нічога ж не прадавалі. Гэта было жахліва. Я не ведаю, як тады магчыма было выжыць... Аднак жа выжылі. Пасля — вайна. Вайна, канешне, жахлівая рэч, але вот я ведаю, мае землякі ў вёсцы гаварылі: толькі ў вайну і паелі хлеба. Да вайны не елі. І пасля вайны, натуральна, не елі, — толькі ў вайну паелі, — у вайну, у гэту крывавую вайну, пад акупацыяй, пры партызанцы, калі фронт два разы прайшоў!.. Аднак жа — у вайну елі хлеб. А ўсё таму, што немцы вярнулі назад зямлю, кожны сваю «палоску» вярнуў, хоць межы былі панішчаны, і сеялі, хто мог, усе сеялі, і ўбіралі... Якая гэта была гаспадарка — ні энергарэсурсаў, ні МТС, ні трактароў не было, і коні не ва ўсіх былі, — аднак неяк апрацоўвалі і елі з хлебам. З 1933 года і да самага пачатку вайны хлеба не было, карміліся, я памятаю, бульбай, каторая канчалася недзе вясной, у красавіку. І вось нічога: ні хлеба, ні бульбы, траву елі. Пасля, натуральна, пасляваенныя гады — 1945, 1946, 1947, мабыць, і 1948-мы — таксама былі галодныя. Толькі пазней пачалі зажывацца патроху... Вот такі лёс гэтых пакаленняў.

Дык вот я скажу, што там вельмі шмат, шмат розных катаклізмаў схавана... Гэта драматычная пара. Шкада, старэйшыя пісьменнікі, тыя, хто мог бы напісаць пра гэта, альбо панішчаны ў часе рэпрэсій, альбо, заангажаваныя кампартыяй, ніколі пра гэта не напішуць.

***— Старэйшым пісьменнікам, відавочна, болей даспадобы «кайф часу», асалоды бягучай рэчаіснасці...***

— ...Выкананне планаў, пяцігодак, роля партыі, райкамаў, парторгаў і г.д...

***— Вы схільныя скептычна ставіцца да такой літаратуры?***

— Ды гэта наогул фальшывая літаратура, фальшыўка... Я ніколі не быў высокай думкі пра сваю літаратуру, ну, пісаў, як умеў, мабыць, іншыя ўмеюць лепей. Ведаю шмат пісьменнікаў, каторыя таленавіцей, чым я, дапусцім. Але ў іх чагосьці не хапае. Не хапае, перш за ўсё, я так лічу, чыстага сумлення асабістага...

***— Мяне, Васіль Уладзіміравіч, цікавіць пэўная загадка Вашага таленту. Наколькі я разумею, Вы, прыехаўшы з Далёкага Усходу ў Гродна, не мелі на той час якой-небудзь філалагічнай вывучкі, так жа? Значыцца, трэба было мець калі не філалагічную, дык нейкую магутную ўнутраную ўпэўненасць у маральным праве пісаць?***

— Юрась, я скажу, што гэта была не «магутная ўпэўненасць», а мая арганічная агіда да фальшу. Так, філалагічнай вывучкі ў мяне не было, але фальшу ў жыцці я нагледзеўся досыць, усё сваё жыццё толькі яго і бачыў... Таму яшчэ сваімі рукамі ствараць гэты фальш я не хацеў, мне гэта было проста агідна. Першая ж мая маленькая кніжачка — зборнік апавяданняў «Ход канём» — была сатырычная. Гэта было ў часе «адлігі», пасля ХХ з'езда партыі, які ўскалыхнуў народ. Тады я пачаў пісаць тыя апавяданні — слабыя, канешне, але ўсё ж гэта была сатыра, там была нейкая пазіцыя. І там не было фальшу, я так думаю. Пасля тыя апавяданні не друкаваў нідзе, таму што ў літаратурным сэнсе проста слабіна была...

***— І ўсё ж такі Вы доўгі час былі адараваны ад роднай мовы, пачалі пісаць, бадай, у трыццацігадовым узросце, зразумела, што зрабіць гэта было не так лёгка. На якой мове пачыналі пісаць — па-расейску ці па-беларуску?***

— Зараз я скажу пра такія моманты маёй біяграфіі... Я прыехаў у Гродна з Далёкага Усходу ў 1955 годзе, з кароткім побытам у Лапічах пад Асіповічамі — служыў там некалькі месяцаў. Не было ў мяне, вядома, ні кватэры, нічога не было, я быў нейкі час без работы. Пасля надарылася ў рэдакцыі «Гродзенскай праўды» пасада карэктара, і мяне туды ўзялі — на беларускае выданне (газета тады выходзіла на дзвюх мовах — па-руску і па-беларуску, на беларускую мову дублявалі, здаецца, 800 асобнікаў). Я пайшоў карэктарам беларускага выдання. Папрацаваў там некалькі месяцаў, пасля перайшоў у сакратарыят, на вычытку перакладаў расейскамоўных карэспандэнцый на беларускую мову. Так што ў мяне папросту не было патрэбы карыстацца расейскай мовай, я ёй не карыстаўся, бо ўвесь час працаваў з беларускай мовай. Першыя апавяданні, якія напісаў, а затым надрукаваў, былі, канешне, беларускія.

Затым ужо для патрэбы самаперакладу мне давялося авалодваць і расейскай літаратурнай мовай. Гэта быў вельмі складаны працэс, і пераклады, каторыя рабіў пазней, нават апошнія, — вымагалі каласальнай працы. Вот што значыць не родная мова...

***— Што Вас прымусіла рабіць пераклады?***

— Я таму звярнуўся да расейскай мовы і сам пачаў перакладаць, што пераклады ўсіх прафесійных перакладчыкаў мяне не задавальнялі, бо яны былі проста слабымі ў моўных адносінах. Я гэта рабіў лепш.

***— Аднак жа дзякуючы расейскім перакладам сусветная чытацкая аўдыторыя прызвычаілася да таго, што Вы — рускамоўны аўтар, расейскі пісьменнік — Васіль Быкаў...***

— Такое ёсць, часам мяне называюць «двухмоўным» пісьменнікам. Дык вось, я заўсёды ў такіх выпадках, калі мяне аб гэтым пытаюць, катэгарычна аб'яўляю, што я — пісьменнік беларускі, толькі такі. Зноў жа — каб хоць адзін пераклад з'явіўся вартасны, такі, каб я ўбачыў, што зрабілі лепш, чым мог зрабіць я... тады б з задавальненнем карыстаўся б паслугамі перакладчыкаў, калі б іх работа мяне задавальняла. А то харошыя людзі, неблагія літаратары, але вось прынясе пераклад, і я не магу яго чытаць, прагледзеўшы некалькі старонак, — бачу, што ён валодае расейскай мовай горш, чым я.

Раней гэта было важна — расейскі пераклад. Хоць бы таму, што амаль усе мае пераклады на замежныя мовы зроблены з яго, і таму я вельмі адказна ставіўся да гэтай работы...

***— Ці можна гэтую працу называць перастварэннем?***

— Усё-такі я яе называю перакладам. Я, канешне, не магу ацаніць вартасці нямецкага, балгарскага альбо нават украінскага перакладу. Але з кепскага арыгінала добрага перакладу не атрымаецца, горш — можа быць. Так здарылася з «Альпійскай баладай», каторая была надрукавана не ў лепшым расейскім перакладзе і так і разышлася па свеце ў перакладах на іншыя мовы. Я гэтым вельмі незадаволены...

***— Зараз літаратура, па Вашых словах, як бы стаптана самім жыццём. Які ж яе лёс — літаратуры? Ці захавае яна, на Вашу думку, нейкую вагу ў грамадстве?***

— Літаратура знікае. І не толькі ў нас. Яна знікае ва ўсім свеце...

***— Незалежна ад суб'ектыўнай волі творцы?***

— Літаратура ў яе звычайным разуменні. На Захадзе ж кніга перастала быць таварам — я маю на ўвазе мастацкую кнігу. Калі там ёсць якія-небудзь літаратурныя шэдэўры, то гэта, па-першае, вельмі элітарная літаратура, а па-другое, гэта літаратура маскульту, шырпатрэб, кітч; гэта аднадзёнкі, разлічаныя на нейкую сенсацыю, з нейкага поваду. Гэта не тая літаратура, да якой прывыклі мы і каторая існавала даволі працяглы гістарычны час, — рэалістычная літаратура. Гэта на Захадзе. А ў нас — бачыце, што робіцца...

***— Нешта Вы ўспрымаеце са спроб маладога пакалення ў беларускай літаратуры?***

— Чаму ж не? Я назіраю, што маладое пакаленне літаратараў прыходзіць у літаратуру куды больш дасведчаным і таленавітым, чым гэта было ў наш час, гэта безумоўна, безумоўна... Я бачу, што каб яно, гэтае пакаленне, працавала ў рэалістычнай літаратуры, то, відаць, гэта было б нават здорава... На жаль, я кепска ўспрымаю авангард, мадэрнізм, постмадэрнізм — і ў выяўленчым мастацтве, і ў літаратуры; я ўсё-такі болей схільны шанаваць рэалізм. Але я думаю, што задаткі ў маладых ёсць, ёсць розум, талент... Усё можа быць, Божа мой, усё вельмі ўмоўна, розныя плыні мастацкія, літаратурныя змяняюцца, сыходзяць, усё гэта павінна быць, і гэта ўсё натуральна. Ну але мне гэта не цікава: сюррэалістычныя, фантастычныя, прыгодніцкія рэчы, дэтэктывы... Для мяне такая літаратура не мае ніякай цікавасці. Я ўсё-такі прытрымліваюся старамоднай, запляванай канцэпцыі «няіставага Вісарыёна», які некалі напісаў: «сацыяльнасць альбо смерць».

# Раніца ў старым горадзе

## Апавяданне-алегорыя



Лявон ВАЛАСЮК

Цэнтральная вуліца старажытнага горада... Раніца.

Іду дадому ад ракі, што павольна блішчыць у нізіне. Дзень распачаўся. Горад прачнуўся з узыходам сонца.

Вуліца падымае мяне на пагорак, з якога я рухаюся зноў уніз. На такім рэльефе і знаходзіцца мой старажытны горад: то пагоркі, то нізіны... і дамы, дамы са скверамі, бульварамі і плошчамі.

Сонца толькі-толькі паказала на ўсходзе край чырвонага дыска.

Я іду дадому пасля бяссоннай ночы, якую правёў на беразе ракі ва ўтульным старым дамку з каханай жанчынай пасля рэстарана ў славутай гасцініцы. Быў дзень народзінаў у яе сяброўкі, і свята адбылося як мае быць.

Наталля жыве з бацькамі ў аднапавярховым доме ля ракі. Там невялічкая групка такіх старых, даваенных, дамоў. Раней побач змяшчаўся і рынак са сталовай, то было тады весялей там і зручней для жыхароў. Але час мяняе аблічча не толькі людзей, але і горада. Так і тыя дамы хутка пойдуць пад знос, а пакуль я насалоджваюся ад духу старога горада, калі бываю ў гасцях у каханай жанчыны...

Над сярэдзінай цэнтральнай вуліцы раптам у небе з'явіліся чорныя вялікія крумкачы, якія апантана ляцелі нізка над брукаванкай у мой бок, нібы калісьці нямецка-фашысцкія «месеры» атакавалі беларускія гарады на пачатку вайны. Дзейства адбывалася нячутна: стаяла ранішняя цішыня, ад якой нясцерпна хацелася нарэшце вырвацца да людзей...

Адзін з крумкачоў, я бачыў, цэліў у маю галаву. Я змог адхіліцца і адмахнуцца толькі згорнутай газетай «Народная справа», што выпадкова апынулася ў кішэні курткі (то была не проста ўчарашняя газета, а газета з матэрыялам знаёмага журналіста пра наш старажытны горад, які рыхтаваўся да лёсавызначальнага юбілею).

Крумкач нечакана выхапіў дзюбай газету з рукі, абдаў холадам крылаў і знік разам з іншымі ў сваім пэўным накірунку. Я толькі паспеў пабачыць дзікія цёмныя вочы птушкі, якімі яна зірнула злосна на мяне, выхопліваючы ўчарашні нумар любімай газеты.

Такія дзікія цёмныя вочы я бачыў неаднаразова раней у людзей, бачу і ў цяперашнім жыцці. Нічога добрага і цікавага ў іх не адлюстроўваецца, акрамя злосці і нянавісці, акрамя жывёльнай нелюбові да чалавека... Але ж даводзіцца жыць на роднай зямлі побач і з такімі...

Крумкачы ж паляцелі між дрэў у бок старога кварталу, дзе на адлегласці ад галоўнай дарогі стаялі два старыя драўляныя дамы яшчэ з «польскага часу», у якіх жылі людзі, якія чакалі атрымаць кватэры з палепшанай планіроўкай у новых пабудовах. За тым кварталам быў яшчэ і стары парахавы склеп, напалову разбураны адыходзячымі расійскімі войскамі ў 1915 годзе. Тады і горад увогуле згарэў амаль увесь, асабліва цэнтр. Імперскія звычкі захаваліся ў суседзяў і да гэтага часу.

Дзе птушкі хаваліся, знаходзілі прытулак, заставалася толькі гадаць. Але я ўсё ж, разлаваны такім пачаткам дня, вырашыў так проста не пакідаць без увагі неспадзяваны выпадак на цэнтральнай вуліцы і адшукаць крумкачоў, разабрацца з маім «крыўдзіцелем». Мяне гэта «зачапіла»... Тыя звярыныя вочы не давалі мне спакою. Можна было чакаць у будучым нешта і непрадказальнае з боку тых чорных птушак. Тым больш, што апошнім часам, як мне падалося, нешта ўжо іх зашмат стала лётаць у горадзе. Нібыта нейкая навала ці птушыная эпідэмія здарылася ў нас. Ці мо я проста раней не звяртаў на іх увагі. А мо і час такі прыйшоў. Ды толькі ад гэтага не рабілася ўтульней ў родным горадзе.

Я даўно ведаў, што ў адным з тых драўляных старых дамоў, у бок якіх паляцелі крумкачы, жыве мой добры знаёмы Стас, з якім я раней пазнаёміўся выпадкова ў піўным бары непадалёк ад тых дамоў і муроў склепу ў цэнтры горада. Тады пра крумкачоў і думак ніякіх не было: маладая кроў грала ў іншым накірунку. Іншыя справы і падзеі займалі час і розум.

Некалі Стас быў міліцыянтам. Цяпер працаваў па дамовах на будоўлях горада і бліжніх наваколляў. Мы, можна сказаць, сталі часцей бачыцца і з часам пасябравалі. (Калі ён яшчэ працаваў міліцыянтам у ахове.) Гэта быў лёс.

Часта праходзячы па сваіх справах побач з яго домам, я часам пачаў заўважаць, што ў двор яго драўлянага двухпавярховага дома заходзіць прыгожая маладжавая жанчына, якая працавала на аўтавакзале, як я паспеў заўважыць, бо амаль кожны дзень праходзіў там побач на сваю працу. Мне яна падабалася прыязнай усмешкай і зграбнай постаццю. Да незнаёмага чалавека прывыкаеш, калі часта бачыш выпадкова на вуліцах горада. Ён тады становіцца нібыта «сваім».

На маё пытанне: «Хто тая жанчына, што заходзіць у твой дом?» Стас мне адказаў: «То мая жонка. Калі хочаш бліжэй пазнаёміцца, то паспрабуй...». Я ўсміхнуўся, канешне, на яго прапанову, ацаніў гумар, але потым пазнаёміўся, калі ўжо стаў завітваць да іх у госці як добры сябра сям'і.

...У двары Стасавага дому было ціха. Толькі недзе далей, за старымі пабудовамі, быў чуваць птушыны гоман.

Непадалёк ад ганка я пабачыў падзёўбаную скамечаную газету. Нахіліўся, узяў у рукі і аслупянеў: гэта была мая «Народная справа»! Я пазнаў яе адразу па напісаным зверху нумары тэлефона жанчыны, з якой правёў ноч у старым дамку ля ракі...

Я падышоў да акна Стасавага пакоя і ціха пастукаў у шыбіну. Праз некаторы час дзверы рыпнулі і паказаўся стары сябар у спартыўным прыкідзе з усмешкаю на твары:

— Адкуль так рана? З міліцыі яшчэ не выпускаюць!.. — весела прагаварыў ён і дадаў: — Праходзь...

Было відаць, што Стас ужо падняўся з пасцелі даўно: на кухні стаяў пах кавы і цыгарэтнага дыму. У кутку вэндзіліся кавалкі мяса, падсыхалі рыбіны на шнурку. Я даўно ведаў, што сябар заўзяты рыбак і аматар прыгатавання мяса. Таму не здзівіўся, калі ён прапанаваў мне паспрабаваць яго стравы. Я не адмовіўся і папрасіў кавы ў дадатак...

— Жонка хутка пойдзе на працу, а я не спяшаюся нікуды. То пабудзь са мною, калі маеш час. Пагаворым: ёсць пра што і пра каго... Я бачу, што ты стаміўся пасля начной змены, то прымі грам сто пяцьдзясят для бадзёрасці...

Я пагадзіўся, бо не дарма завярнуў жа да сябра. Ды так і весялей бачылася нашая сустрэча раніцай.

У хуткім часе з'явілася жонка Стаса Валянціна. Яна павіталася і прыемна ўсміхнулася мне, нібыта мы з ёю толькі што абмяняліся кампліментамі. Але я ведаў пра яе добрыя адносіны да мяне: Стас жонцы даўно расказаў пра тое, як я пытаў у яго пра маладую прыгожую жанчыну, што жыве ў іхнім доме.

— Што так рана? — толькі і запытала Валянціна, яшчэ раз міла ўсміхнуўшыся мне, нібы адорваючы добрым настроем на ўвесь дзень.

— Патрэба ёсць пагаварыць са Стасам. Ды і цябе даўно не бачыў, так што прабач за ранні візіт: я праходзіў тут побач, таму і завітаў...

Стас ужо ставіў перада мною каву і талерку са сваімі вырабамі. Я зразумеў, што ён чакае, пакуль Валянціна пойдзе на працу, каб наліць мне чарку і пагаварыць... а пакуль кава.

...Жанчына, міністр інфармацыі, калі прыехала па службовых справах у абласны горад, прапанавала мясцовым чыноўнікам аптымізаваць дзяржаўныя СМІ: ліквідаваць дзяржаўную абласную беларускамоўную газету «Народная справа», адзіную ў краіне, якая друкавалася на роднай мове. Тыя бязвольна пагадзіліся, абы толькі не страціць свае даходныя крэслы. Мужчыны падпарадкаваліся жанчыне.

Адзін з журналістаў газеты вельмі абурыўся на такую прапанову жанчыны-міністра, пачаў збор подпісаў у абарону газеты, ды толькі яго хутка папярэдзілі «зверху», каб супакоіўся, бо можа мець непрыемнасці...

Гэтая газета была самай таннай у вобласці, асабліва падабалася пенсіянерам і мясцовым літаратарам, ды толькі каму патрэбныя тыя пенсіянеры, якія перашкаджаюць жыць маладым чыноўнікам?!. Ды і журналісты страцілі працу, апынуўшыся перад выбарам далейшага лёсу. Добра было толькі тым, хто меў пенсійны ўзрост і мог спакойна стаць пенсіянерам без працы, але такіх было два-тры чалавекі.

Так газета дажывала апошнія дні: дарабляла па інерцыі, інакш кажучы...

— Стас, вось ля твайго дома падабраў скамечаную газету «Народная справа», якую ў мяне непрыемны крумкач з дзікімі вачыма выхапіў з рукі, калі ішоў у твой бок. Я, пэўна, да цябе і не заглянуў бы, бо вельмі рана, але крумкачы паляцелі да твайго дома. То я і вырашыў распытаць у цябе пра іхнюю калонію, якая недзе непадалёк атабарылася тут. Справа не толькі ў газеце, а ў тым, што такія супадзенні так проста не бываюць: абласныя чыноўнікі вырашылі ліквідаваць патрэбную беларускамоўную газету, усё ідзе да закрыцця, а тут такая нечаканая неспадзяванка вось толькі што адбылася са мною...

— Так ты ўжо і спалохаўся гэтых крумкачоў?!. — весела звярнуўся да сябра Стас. — Першы раз, ці што, у цябе адабралі ўчарашнюю газету!..

— Рэч у тым, што яна можа быць ужо і апошняй, бо чыноўнікі не хочуць яе фінансаваць, хаця ўсё выдаецца за народныя грошы. Проста ідзе агульная эканомія на запалках. Нават адзін філіял гарадской бібліятэкі закрылі, пакінуўшы чытачоў ні з чым. Дарэчы, ужо і Пінскую фабрыку, адну са старэйшых у рэгіёне, па вырабе запалак закрываюць неўзабаве. Як табе такая сітуацыя?!. — Я не ўстрымаўся і выгаварыў Стасу набалелае.

— Тут словам не дапаможаш... — толькі і выгаварыў Стас у адказ і напоўніў кілішкі. — За нас. Каб усё склалася!.. А чытачоў не паменшыцца ў нашым горадзе ад закрыцця бібліятэкі і газеты. Тут адваротны бок сітуацыі: больш стане супраціву мясцовай уладзе. Сам ведаеш пра сітуацыю ў горадзе...

Пасля прыемнага сняданку Стас прынёс аднекуль тры дымавыя шашкі, паклаў у пакет і сказаў: — А зараз пойдзем разбірацца з тымі, хто газету ў цябе забраў!.. — і засмяяўся, гледзячы на мяне. — Што, не чакаў такога павароту?.. Не такое яшчэ бывала. Гэтага хопіць, каб крумкачы супакоіліся і не палохалі мінакоў на вуліцах роднага горада.

За высокай агароджай з фарбаваных дошак віднеўся стары парахавы склеп, які быў пабудаваны яшчэ ў пачатку мінулага стагоддзя. Сваім шэрым бетонным верхам ён напамінаў гараджанам, што і трохмятровыя мураваныя сцены могуць трэснуць і развaліцца на кавалкі.

Сярод паўразбуранай паловы склепу ад выбуху ў 15-м годзе мінулага стагоддзя ў час Першай сусветнай вайны чарнеў невялікі праход у сярэдзіну, куды ніхто не асмельваўся забірацца, хіба што самыя смелыя школьнікі маглі пацікавіцца тым месцам, гуляючы ў «вайну» альбо «піратаў». Той праём некалькі разоў камунальнікі закрывалі драўлянымі шчытамі, але знаходзіліся тыя, хто меў вялікую патрэбу туды заглядваць, кідаць непатрэбныя рэчы і ўзрыўпакеты. Так сталася, што вялікая шчыліна прысутнічала ў тым праёме. Вось туды Стас і прывёў мяне, каб здзейсніць акцыю, якая дапаможа пенсіянерам атрымліваць патрэбную газету, якую ўжо ніколі ніхто не закрые і не выкрадзе.

Сябар дастаў «хатнія загатоўкі» і кінуў па адной у сярэдзіну праёма, прыкрыўшы з маёй дапамогай шчыліну шчытом з дошак.

— А цяпер хуценька ідзем адсюль на суседнюю вуліцу. — Стас з сур'ёзным выразам твару падштурхнуў мяне наперад, і мы маўкліва рушылі.

З другога боку ад парахавога склепу было відаць бетонную трубу, калі так можна назваць захаваўшуюся з часоў дзвюх войнаў вентыляцыйную шахту. Пасярод яна была нібы падрэзана, як свежы гурок. Верхняя частка была крыху змешчана ўбок, але трымалася надзейна і моцна — так, што не выклікала ні ў кога страху ад таго, што можа зваліцца на дарогу....

І раптам з верху шахты паваліў бела-шэры дым: то спрацавалі Стасавы шашкі.

— За такое хуліганства ў цэнтры горада могуць і «на суткі» пасадзіць, — звярнуўся я да сябра.

— Не хвалюйся, затое добрую справу зрабілі: крумкачы з дзікімі поглядамі і моцнымі дзюбамі сюды больш не прыляцяць. Глядзі, як яны паперлі праз бетонны комін!.. Ім увогуле не месца не толькі ў цэнтры горада, але і ў наваколлі. На пэўны час ты можаш проста іх і не ўспамінаць. Ну а пра сваю газету ты не дарма хваляваўся: пакуль птушкі з дзікімі вачыма і моцнымі дзюбамі да цябе прылятаць не будуць, каб трушчыць яе. Так што купляй і чытай далей...

Сапраўды, пачуліся крыкі і шум птушак, якія ледзь выбіраліся з дыму праз вентыляцыйны калодзеж парахавога склепа. Яны пералякана крычалі і ў клубах дыму разляталіся ў розныя бакі, накіроўваючыся на ўсход.

Такога відовішча я, вядома, не чакаў і ніколі не бачыў, а Стас ведаў, што робіць. Не дарма некалі служыў у савецкай міліцыі...

*2020 г.*



Фота mypage.ru

# Спадчынны сад

Алесь КАСКО (1951–2017)



### Недажын

*Як бы доўга ні жыць — не дажыць*
*да канца… Зноў і зноў паўстае перад намі*
*грыўка спелых жытоў — недажын,*
*што асыплецца ветрам,*
*прыб'ецца дажджамі.*

*От бы ўсё — ад зярнят да расы —*
*зберагчы і напоўніцу ўсім наталіцца!*
*Дакахаць, дапісаць… Папрасіць*
*даравання ва ўсіх, з паміраннем змірыцца.*

*Зручны быў бы няношаны ўбор,*
*і пачулі б анёлы, схілёныя нізка,*
*што гучыць літасціва не хор*
*адпявальны — то маці пяе над калыскай.*

*…О, каб гэтак! Але да мяжы*
*часу меней нашмат,*
*чым да зжатага жыта.*
*Можна загадзя ўпасці, не жыць…*
*Ды з таго і жывём,*
*што жывём недажынам.*

***

*О лёс мой, выказацца дай,*
*не забяры мяне заўчасна*
*ў далечу тую, дзе так часта*
*мне будзе сніцца любы край.*

*Яго вяснянкі, пошум дрэў*
*заўжды ўва мне, як сіла ў ветры,*
*і спеляць збуджаныя нетры*
*душы мой заўтрашні напеў.*

*Дай слову добраму ўзрасці,*
*пакуль я на жыццё багаты.*
*Шчаслівы сейбіт і араты,*
*дзён для жніва мне адпусці.*

*Не стане моцы — і няхай! —*
*у памяці, руцэ, у зрэнцы…*
*Усё вазьмі — і толькі сэрца*
*пакінь і выказацца дай.*

### Напярэдадні рэферэндуму

*Вось — галоўны гісторыі ход:*
*пагарджаны вякамі народ,*
*што душою аглух і аслеп,*
*плюе ў мову, і ў сцяг свой, і ў герб.*

*І тады, як адвернецца свет,*
*не апомніцеся, прэзідэнт?*
*— Нет.*

*Набрыняе крывёй каляндар,*
*кіне Бога сумленны святар.*
*Роспач вусны прароку замкне,*
*вучні ўтопяць жалобу ў віне.*

*І тады, як смерць прыме паэт,*
*не пакаецеся, прэзідэнт?*
*— Нет.*

*Шчэ ёсць вера ў інакшы зыход:*
*да глумлення не дойдзе народ*
*са святыняў сваіх, напаказ…*

*І тады, калі грымне адказ,*
*што не гнюс ён і не самаед, —*
*не застрэліцеся, прэзідэнт?*
*— Нет.*

***1995 г.***

***

*Чорным хлебам варону кармлю,*
*ёй кідаю то крошку, то скрылік*
*на сухую, бы хлеб мой, зямлю,*
*на птушыныя чорныя крыллі.*

*Спадабляе мой корм і пагляд,*
*прыручу, як не будзе дурная, —*
*хай пад вокны мае, у мой сад*
*аж да самай вясны прылятае.*

*Чорны сад мой — такая ж яна,*
*вось і ходзіць па ім, быццам пані,*
*ёй сяброўак гурма не чутна,*
*што над могілкамі гарлапаніць.*

*Тут зацішна, ніякай бяды,*
*добра ўсё ж напаткалай апеку:*
*што з таго, што ўчарнелі сады,*
*што тужліва над ёй чалавеку?*

*Усё роўна, якая пара*
*і ў прыродзе, і ў зболеным сэрцы,*
*і з чым цераз прорву двара*
*позірк мой гэтак прагне сустрэцца.*

*Добра ёй, што без сцюжы зіма,*
*што жыццё маё — скокам ды бокам,*
*што са мною галубкі няма*
*і што мне, як і ёй, адзінока.*

***

*Хворы быў на шэрую тугу,*
*весні свет і той шарэў, як морак.*
*Ты прыйшла — і як я жыў учора,*
*і ці жыў, успомніць не магу.*

*Мусіць, жыў, калі збярог душу,*
*і яна папоўнілася словам.*
*Ты прыйшла — і свой настрой нанова,*
*нібы чарнавік, перапішу.*

*Белы свет — хай белым і цвіце,*
*вунь чаромха распушыла шаты.*
*Я не ведаю, адкуль прыйшла ты*
*і куды цябе твой шлях вядзе.*

*Калі ёсць, і праўда, шлях другі,*
*перакрэслі мой тады і нават*
*загубі мяне — ты маеш права,*
*толькі шэрай не вяртай тугі.*

***

*Зноў я дома, дома, дома,*
*І паўзмрок, і цішыня.*
*І матуля, як мадонна,*
*ля глыбокага акна.*

*Кола месяца за ёю,*
*задуменнай, маладой,*
*залаціцца чысцінёю.*
*быццам німб над галавой.*

*Цень кідаюць дрэваў шаты,*
*ды з таго яшчэ відней:*
*за сцяною гэтай хаты*
*мне ні трошкі не вальней.*

*Што за воля — ў падняволлі*
*грэшніх дум і сумятні*
*біцца, бы вятрыска ў голлі,*
*абрываць, як лісце, дні?*

*Адно б доля захацела!*
*Хату за́гаддзя прашу,*
*каб адвеялі ад цела*
*толькі тут маю душу.*

*Толькі тут ёй будзе добра,*
*дзе паўзмрок і цішыня.*
*дзе матуля, як мадонна,*
*будзе вечна ля акна.*

***

*Гэта пэўна, гэта існа:*
*свет не згіне, век міне;*
*гэтым далям, гэтым высям*
*існаваць пасля мяне.*

*Гэта дробязь, гэта проста —*
*гэта выпадзе адна*
*кропля з мора, кропля з росаў,*
*кропля з горкага віна.*

*Гэта дзіўна, гэта сумна:*
*ноч за днём, за ноччу дзень*
*паплывуць далей бясшумна*
*без мяне — ні ў чым, нідзе.*

*Гэта час мой, гэта рата*
*і ніякай навіны;*
*што прыйшоў — не вінаваты,*
*што пайду — няма віны.*

*Гэта трэба, гэта сніцца:*
*вы адчулі — не стае*
*хоць часцінкі, хоць драбніцы,*
*хоць крывіначкі мае.*

*Гэта досыць, гэта вышэй:*
*скрозь смугу ці скрозь імжу*
*ў гэтых далях, гэтых высях*
*ляжа ўцеха на душу.*

***

*Я вымыўся сёння ў настоеных росах*
*і выцерся хмаркай — льняным ручніком:*
*на ім вецер сонца з-за лесу выносіў,*
*ажно верх яліны заняўся дымком.*

*Мне спалася моцна на посцілках траўных*
*пад шатамі мяккіх, густых туманоў.*
*Між дрэў і мятлушак,*
*і птахаў сапраўдных*
*і самых спагадных знайшоў я сяброў.*

*У сне зорна-сінім я лётаў высока*
*і стойваў дыханне над роднай зямлёй,*
*а поўня, прыроды нядрэмнае вока,*
*мяне сцерагла і сачыла за мной.*

*І свет адкрываўся мне ісцінай простай:*
*ні рэк, ні аблокаў не спыніцца ход…*
*…Пакуль беласнежнай бліскучай палоскай*
*лятункавы сон не спыніў самалёт.*

*Пайшоў я тады ў дымны горад лугамі*
*і вестку з дзяцінства разнёс па дамах:*
*яны па-ранейшаму роўныя з намі —*
*трава, і мятлушка, і дрэва, і птах.*

### Спадчыны сад

*Падаюць яблыкі. Яблыкапад:*
*сіла зямлі пакідае мой сад.*
*Скочваннем звілістым ці стрымгалоў*
*яблык за яблыкам — з голля далоў.*
*Горкі, падгнілы або сакаўны —*
*Па́данак падае ў пыл, палыны…*

*Атарапеласцю — смутак двара:*
*яблыкам па́даць яшчэ не пара;*
*ім налівацца было б самы раз —*
*не ля варот яшчэ яблычны спас.*
*Гнуцца галіны ў суседніх садах,*
*моцны, крамяны, мядовы там пах,*
*рала з антонамі цяжкімі прут*
*гордым атлантам трымае. А тут*
*падаюць яблыкі. Яблыкапад*
*губіць адзіны радзінны мой сад.*

*Вось-вось пачне шорстка падаць лісцё,*
*ліст абляціць — і застыне жыццё*
*не на зіму, ды і не на гады:*
*саду майму не вярнуцца сюды,*
*як не вярнуліся продкі мае…*
*Сад мой бязлюдны, час настае.*

*Голля, бы рук, не заломвае сад,*
*свеціць з паўзмроку ягоны пагляд*
*зрэнкамі яблык з-пад веяў-лісця:*
*жаль у ім ёсць, ды няма страхаця.*
*Зведаў пад бурамі ён, што і ў дрэў —*
*час толькі свой, хоць знянацку заспеў,*
*дык і сыходзіць (і я разам з ім)*
*яблык за яблыкам — крокам глухім.*
*Ціхі, без ляманту яблыкапад…*
*Дзякуй за еднасць, мой спадчынны сад.*

### Перад свечкаю

*Што век — са свечку, не тушыце:*
*узрост ці выстудзіць душу?*
*Вы хоць агарка не тушыце,*
*яго і сам не патушу.*

*Яго насіце ў храм сасновы,*
*у вечаровы, залаты,*
*каб ён запалымнеў нанова*
*ад нехалоднай яснаты.*

*Яго трымайце, засланіўшы*
*ад скрадлівага скразняка,*
*над споведдзю бяссоннай кніжкі,*
*над цёплым подыхам радка.*

*А ўночы, калі мулка спіцца,*
*хай скрозь адлегласць паўстае*
*ў ім водсвет хаты, як зарніца*
*нязгаснай памяці яе.*

*Краса, паэзія, айчына*
*слязінкаю раз'ясняць зрок,*
*і вам адкрыецца магчымасць*
*убачыць прышласць хоць на крок.*

*Дык перад свечкай не грашыце*
*на ўзрост, на прыцемак… Прашу:*
*вы хоць агарка не тушыце,*
*я сам — яго не патушу.*



Фота pinterest.com



Віктар САЗОНАЎ

# У цэнтры Еўропы

## Раздзел з новай кнігі «Генетычны алфавіт» (Праграмная Рада тыднёвіка «Ніва», Беласток)

У гэты цёплы вясенні дзянёк, падняўшыся над засакрэчанай вёскай, ласкавае ранішняе сонейка так пяшчотна ўсміхалася яе жыхарам, што і тыя ў адказ стараліся выглядаць таксама даволі бадзёрымі, радаснымі і бестурботнымі. Некаторым нават гэта ўдавалася. Яны прачнуліся разам з курамі, каровамі, сабакамі і жаўрукамі акурат у той самы час, як лясныя совы ў Касабускім лесе паснулі, у Мінску ўсе кіраўнікі Беларусі яшчэ працягвалі салодка спаць гіпнатычным сном незалежных грамадзян незалежнай краіны, а ў Маскве закончылася бяссоннае пасяджэнне спецслужбоўцаў, пра якое сяляне засакрэчанай вёскі нават не падазравалі. Як і пра аналагічнае пасяджэнне ў Вашынгтоне. Пра Вашынгтон то нават не ўсе ведалі, што ёсць такі горад, калі гэта сапраўды горад…

Да цёткі Мані Бахруновіч па вельмі важную, можна сказаць лёсаносную параду высунуўся са сваёй хаты павольнай хадой старога слімака Міхаіл Пятровіч Серада. Ён яшчэ з вечара вырашыў схадзіць да Мані. Але вясковы вечар такі ж смачны, як вячэра ў вясковай хаце. Настаўнік за сваё жыццё засвоіў шмат жыццёвых урокаў, і адным з такіх было тое, што сур'ёзную размову лепш пачынаць пасля добрага сну і не спяшацца.

— Добры дзень, Маня, — прывітаўся Міхаіл Пятровіч, нават не заўважаючы іншых вяскоўцаў, акрамя той Мані ды Пятра Грыневіча, які і прыпыніў хаатычны рух настаўніка вакол Манінай хаты.

Хоць іншых вяскоўцаў, акрамя Мані ды Пятра Грыневіча, тут было чалавек пяць. Яны выгналі ў поле скаціну і прыселі на хвілінку патрапацца на лаўцы цёткі Мані ды паслухаць свежыя плёткі, якіх у газетах не надрукуюць. Кожную раніцу так рабілі. Традыцыя такая завялася адразу пасля пахаванаў Грышкі Бахруновіча, былога мужа Мані. А Серада ўжо трэці раз ля іх праходзіў і не заўважаў аніводнага…

— Што ты тут тузаешся? — спыніў Грыневіч задуменнага настаўніка.

— А я да Грышчыхі іду, — уключыўся ў рэчаіснасць Серада.

Гэта ён цётку Маню называў Грышчыхай. Яе так усе называлі, па імені мужа нябожчыка. Як той яшчэ жыў, так называлі. Ну а як пайшоў у лепшы свет, нічога мяняць не захацелі. Мо гэта з павагі да былога мужа цёткі Мані, а можа з таго, што новага яна не завяла яшчэ.

— Параіцца трэба, — патлумачыў Серада, убачыўшы здзіўленне ў вачах Пятра.

— Ну то вось жа яна, — засмяяўся Пётар і паказаў рукой на жанчыну. — Старэеце, Міхаіл Пятровіч, старэеце.

Вось тады і павітаўся Серада з цёткай Маняй, так і не заўважаючы іншых прысутных, а Грыневічу сказаў:

— Старэю, старэю. Некалі і ты састарэеш. Не ўвесь час будзеш маладым… — Я пра выбары хацеў параіцца.

— Якія выбары? — Скрывіўся Грыневіч.

— Ну ў нас жа выбары першага прэзідэнта ўжо менш чым праз два месяцы, — пацісnуў Серада плячыма. — Гэта вельмі важны і адказны момант! Што гэта ты такое пытаеш?!

А калгасны камбайнёр Пётар Грыневіч ніяк не мог зразумець, з чаго настаўнік ці ўжо нават дырэктар іхняй вясковай школы Міхаіл Пятровіч Серада турбуецца пра нейкія там выбары, хадзіць на якія нарэшце стала неабавязкова. Гэта сельсавет хай турбуецца. Можа, у іх яўку патрабуюць? Прычым тут школа?

Грыневіч, як быў яшчэ маленькім Петрусём, стаў любімым вучнем Міхаіла Пятровіча. Хлопец цягнуўся да вучобы, усю бібліятэку прачытаў ад першай старонкі да апошняй літары, што, на думку яго маці, негатыўна паўплывала на станаўленне юнага характару сына. Бо Пятрусь невядома з чаго ўбіў сабе ў галаву, што хоча стаць некім. Ну кімсьці такім з вялікай літары. Каб яго імя ў газетах друкавалі, ці хаця б каб ён быў пад рубрыкай «іншыя афіцыйныя асобы». Але як маленькі вундэркінд дакапаўся ў бібліятэцы да твораў Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага, то пачаў задумвацца пра сэнс жыцця і праўду. Уяўляў, быццам недзе больш справядлівасці ёсць, чым на зямлі. Таму яго яшчэ дзіцячая мара стаць касманаўтам нарэшце набыла асэнсаваны выбар. Але як Пятрусь даведаўся, што касманаўты вяртаюцца на Зямлю, то згубіў да гэтай мары ўсялякую цікавасць. Пошукі альтэрнатывы працягваліся ўсё ранняе юнацтва і закранулі частку юнацтва позняга. Пасля аказалася, што калгасная рэчаіснасць мае толькі адну альтэрнатыву касмічным мáрам, але моцную. Гэта, канешне ж, была гарэлка. Яна не рэдка становіцца адзінай альтэрнатывай усіх нязбытных мар, у тым ліку і касмічных. Бо калі піць, то няма ўжо вялікай розніцы, на якой ты планеце. Таму Пётар Грыневіч не толькі не пакінуў планету Зямля, але і ад роднай вёскі далёка не ад'ехаў. Толькі за мяжу аднойчы з'ездзіў на танку, калі ў савецкім войску служыў. А пасля стаў рэдкім тыпам вясёлага, рухавага, маладога камбайнёра.

— Ну гэтага нам яшчэ не хапала, — закурыў ён цыгарэту. — Зноў нешта прыдумалі на нашу няшчасную галаву. То войны, то рэвалюцыі, то калектывізацыя, то аб'яднанне неперспектыўных вёсак, то развал СССР, а цяпер яшчэ і выбары нейкія. Зусім вырашылі народ звесці. Лепш бы заробак аддалі. А то ўжо трэці месяц не плацяць, падлы. Сабе то кішэні набілі, скаты. Усё начальства пры грашах. Крадуць цэлымі эшалонамі. А нам заробленае не аддаюць. А мы яшчэ за іх і галасаваць мусім!

— А гэта ты дарэмна, — не пагадзіўся, не падымаючыся з лаўкі, стары Язэп. — Выбары справа не кепская. Вось у вайну, як мы ў лесе пахаваліся, то галоўнага сабе самі выбіралі. А як не спадабаецца, то перабіралі назад. З таго вялікая карысць была.

І сціх. Відаць, вайну ўспомніў. Рэдка вясковыя людзі пра вайну гаварылі. Ну а раз загаварыў, то, сапраўды, лічыў важным такі прыклад.

— Ну і што за карысць такая? — зацягнуўся цыгарэтай Грыневіч, які быў значна маладшы за Язэпа і ў вайну яго бацькі яшчэ і не планавалі будучага апрацоўшчыка калгасных палеткаў.

— Ды вось, пакуль мы галоўнага самі выбіралі, ніхто з нашых не загінуў, — уздыхнуў Язэп. — Усе жывыя засталіся. Ды па начах яшчэ спраўляліся да родных прыходзіць і спаленыя хаты паадбудоўвалі. А пасля, як саветы прыйшлі і нас у Чырвоную армію забралі, то там ужо выбараў аніякіх не было. Камандзіраў нам прызначалі. Ну то амаль усе нашы і палеглі… Жывымі мала хто павярнуўся. Вось і думай, патрэбныя выбары ці не.

— Ды гэта ж не такія выбары, — засмяяўся камбайнёр.

— Такія-такія, — адказаў Язэп. — Іншых не бывае.

Міхаіл Пятровіч паспрабаваў спыніць спрэчку. Ну не пра тое ж яны спрачаюцца! Ён пра канкрэтнага кандыдата хоча параіцца, а яны ўвогуле пра выбары. Тут канкрэтыка патрэбная.

— Я вось думаю, за каго мне прагаласаваць, — уклініўся ён у размову. — І ўсё аніяк не магу вызначыцца. Бо падабаюцца два кандыдаты. Таму і хачу параіцца.

Тым часам да размовы пачалі, як пчолы на варэнне, далучацца іншыя вяскоўцы. Убачыўшы ля лаўкі большае, чым звычайна, зборышча людзей, сталі падцягвацца і тыя, хто ніколі тут не бавіў часу. І Васіль Гудзей прыпыніўся, бо яго сын Андрэй прывозіў яму розныя газеты і ўлёткі пра тыя выбары ды прасіў распаўсюджваць сярод вяскоўцаў, і новы ўчастковы, які па службе мусіў быць там, дзе людзі кучкуюцца, і сакратарка сельсавета, якая зялёнага паняцця не мела, як будуць праходзіць выбары цяпер, калі так шмат кандыдатаў. А яна то прывыкла да савецкіх выбараў, дзе выбіраць было лёгка, бо кандыдат адзін.

— Дык хто табе падабаецца? — спытаў Васіль.

— Найперш Зянон Пазняк, старшыня Беларускага Народнага Фронту, — адказаў настаўнік. — Вельмі цікавы кандыдат.

— А другі хто?

— А другі — цяперашні кіраўнік, спікер Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч.

— Дык табе падабаюцца абодва?

— Абодва.

— А за каго галасаваць будзеш?

— Напэўна, за Кебіча, — вінавата апусціў галаву Серада.

Так вінавата апусціў сваю сівую галаву, як школьнік, які прынёс дахаты поўны дзённік двоек.

Першым з думкамі сабраўся Васіль Гудзей:

— Нешта я не зразумеў, Міхаіл Пятровіч. Вы сказалі, што вам падабаюцца Пазняк і Шушкевіч, так?

— Так.

— Дык чаму галасаваць будзеце за Кебіча?

— Бо я не магу выбраць паміж Пазняком і Шушкевічам. Яны мне абодва падабаюцца. А Кебіч не.

Васіль паправіў шапку і прадоўжыў распытваць настаўніка. Усё ж такі ён быў дэсантнік, які быў высаджаны па загадзе камуністычнай партыі і савецкага ўрада ў самой Празе. Усё жыццё гэтым хваліўся. Таму акурат гэта і абавязвала яго трымаць марку да канца:

— То чаму не прагаласаваць за аднаго з тых, хто падабаецца? Напрыклад за Пазняка.

— Таму што тады я несправядліва пакрыўджу Шушкевіча, — нават не мігнуўшы вокам, адказаў Серада. — Я здраджу такому прыстойнаму чалавеку! Я не магу пайсці на такую подласць!

— Ну то галасуй за Шушкевіча!

— Тады я несправядліва пакрыўджу Пазняка. А гэта подласць не меншая. Вось таму я вырашыў прагаласаваць за Кебіча, — падсумаваў Серада.

— А што, калі ў такім разе на цябе пакрыўдзяцца і Пазняк, і Шушкевіч? — Стараўся разабрацца Васіль.

— Дык яны ж не будуць ведаць, за каго я прагаласую, — абадзёрыўся Серада. — У нас жа галасаванне тайнае. Ды і не ведаюць яны мяне. Не знаёмыя мы. Ну добра. Пайду я…

— Паслухай, Міхаіл Пятровіч, а Кебіч хоць добрым прэзідэнтам будзе? — Дагнала яго ў плечы яшчэ адно пытанне Васіля.

— Мне то не падабаецца яго праграма, — адказаў Серада. — Ён хоча адзіныя грошы з Расіяй увесці. І наконт незалежнасці нейк выказваецца падазрона. Абы што пляце. Сам хіба не разумее, што хоча.

— Дык навошта будзеш за яго?!

— А што рабіць?! — адгукнуўся настаўнік і ўжо значна больш упэўнена, чым раней, пайшоў сваёй дарогай…

— Ну і чаму ён дзяцей у школе навучыць, як сам здурнеў пад старасць? — пакруціла галавой цётка Маня.

— Яго шахматы згубілі, — пада́ў голас калгасны трактарыст Ігнат Садоўскі. — Я аднойчы вяртаюся ўначы дахаты, у яго вакно глянуў, а ён у шахматы сам з сабой гуляе. Уяўляеце: сам з сабой! Як кончаны алкаголік.

— Ды яго мазгі разам з Зінкай Карыцкай з вёскі з'ехалі, — зарагатала бабка Зоська.

— Мазгі як мазгі, а грошы дык дакладна з'ехалі, — удакладніла цётка Нюрка.

— Хопіць сакатаць, сарокі, — не вытрымаў стары Язэп. — Чалавек хоць думае, за каго галасаваць, пра будучыню думае, а ім абы лясы патачыць. А грошы гэта ягоныя. Каму хоча, таму і дае. А вы чым лічыць чужыя грошы, лепш бы лічылі свае грахі. Самі то вызначыліся, за каго галасаваць будзеце?!

— А я на выбары зусім не пайду, — адазваўся Ігнат Садоўскі. — Чаго я там не бачыў? Вось каб сто грам насыпалі, то пайшоў бы. А так дулю ім у нос.

— Каму ім? — уздыхнуў Язэп. — Глядзі, каб сам сабе тую дулю не падсунуў.

Але Ігнат ці то паўжартам, ці то ўсур'ёз, ці то каб выліць сваю даўнюю крыўду на цётку Нюрку, стаў тлумачыць:

— Я то за Лукашэнку збіраўся галасаваць. У раёне казалі, што ў яго калгасе конюх зарабляе больш, чым у нас камбайнёр. Сам быў сакратар камсамола Селядцоў казаў. Але ж за яго цётка Нюрка будзе галасаваць. То я за таго, за каго Нюрка, ні за што не пайду.

— І чым я табе не дагадзіла ўжо так? — выгукнула цётка Нюрка.

Яна сказала гэта з такім сарказмам у голасе, якому студэнтаў тэатральных устаноў пяць гадоў вучаць самыя таленавітыя выкладчыкі.

— Чым не дагадзіла, тым не дагадзіла… — паспрабаваў перадражніць яе трактарыст. — Я ў цябе бутэльку самагонкі ўзяў у пазыку мінулым месяцам і грошы абяцаў з палучкі аддаць. А ты маёй маці наскардзілася, што не аддаю.

— Дык не аддаеш жа!

— А дзе я табе вазьму, калі заробку ўжо трэці месяц не даюць? Спытай у Грыневіча, калі мне не верыш. Я вінаваты, ці што? Казаў з палучкі, значыць — з палучкі. Як будзе, тады і аддам, — запярэчыў Садоўскі.

І тут Грыневіч, які хіба з таго, што разам з Садоўскім і піў тую неаплочаную гарэлку, нечакана заступіўся за Ігната ды стаў тлумачыць жыццёвую пазіцыю таго ў больш абгрунтаванай форме:

— Але ж і праўда, не красці ж яму зараз тыя грошы. Бо як пазычаў гарэлку, у калгасе абяцалі палучку выплаціць. Ну вось і ён абяцаў, начальства паверыўшы. А ім верыць нельга, аказваецца. Нікому верыць нельга.

— А як яе зусім не будзе, той палучкі, дык што, прапала мая гарэлка? — пырснула слінамі цётка Нюра. — Хопіць, і так усе грошы са зберкніжкі прапалі. Збірала-збірала ўсё жыццё, свету белага не бачыла, а ўсё прапала. А яны кажуць, інфляцыя нейкая іх з'ела. Самі, злыдні, пакралі, самі з'елі, а на нейкую інфляцыю нагаворваюць. Ну то хай прывядуць тую інфляцыю ды пакажуць. Ужо я то з яе свае грошыкі выб'ю.

Цётку Маню ўсё тое раззлавала. У яе была ад нараджэння здольнасць кожную непрыемную сітуацыю ператварыць у крыўчыю. Асабліва добра гэта ў яе атрымлівалася крыкам. Нездарма ў вёсцы казалі, што яе і сто сабак не перабрэшуць.

— Глядзі, каб ты не здохла ад таго, што перапрацоўваеш, — кінула яна ў вочы Нюрцы. — Усё жыццё самагонкай гандлявала, у людзей грошы на гэтую заразу выцягвала, а цяпер плача яна, што грошы прапалі на зберкніжцы разам з самой зберкніжкай. У нармальных людзей і зберкніжак аніякіх няма і не было ніколі. Толькі ў злодзеяў такіх, як ты, ёсць. Так табе і трэба! Не нажарэшся чужога супу лапцем суседа! Бог не цяля, бачыць крыўдзяў!

— Пра што гэта ты? — накінула на твар выраз неразумення Нюрка.

— А я пра тое, што не перапрацавалася ты з той самагонкай ля цёплай печкі! Толькі народ спайвала. Са свету звод зіла. І майго Грышку на той свет раней часу адправіла, — махнула рукой Маня.

Заканчэнне на стар. 7 »

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

# У цэнтры Еўропы

## Раздзел з новай кнігі «Генетычны алфавіт» (Праграмная Рада тыднёвіка «Ніва», Беласток)

— А ты ўжо і час ведаеш, каму які ўстаноўлены на гэтым свеце, — не здавалася суразмоўніца. — Я гвалтам у гарляк нікому не залівала. I Грышку тваіму не залівала. Трэба было глядзець мужыка, карміць у хаце, то па задворках не лётаў бы. Людзі п'юць для куражу. Ды каб працаваць лепш. Што, лепш, каб яны ў краме пераплочвалі? А я ім за палову кошту даю, сямейны бюджэт дапамагаю не разарыць. Але як узяў бутэльку, то плаціць трэба.

— Я ж кажу, што палучкі не даюць, — зноў ухіліўся ў размову Садоўскі. — А вы гаворыце: на выбары ідзі. Не пайду ні на якія выбары.

— А ты казаў, разлічышся, — закрычала на яго Нюрка, якая ўжо не ведала, на каго накінуцца пасля слоўнай перапалкі з Маняй. — Вунь мой Колька не плача, што не плацяць. А едзе ў Літву ці Польшчу і гандлюе. І ўвесь час пры грашах.

— Бо ён такі ж злодзей, як і ты, — парырвала цётка Маня. — Усё ўжо пакралі адсюль і ў Польшчу вывезлі. І калгасы абакралі, і прадпрыемствы...

— Ён абяцаў разлічыцца, — настойвала на сваім Нюрка.

— Абяцаць не азначае жаніцца, — пастараўся перавесці ўсё ў жарт Грыневіч. — Ды аддам я за яго. Толькі палучку дадуць, адразу аддам. Слова даю, што аддам.

Грыневічу Нюра верыла на слова. Гэты ніколі нікога не падмануў. Не лабідуда, як той Садоўскі. І не такі псіх, як той. Аднаго разу таму Садоўскаму на дзень народзінаў маладая жонка гадзіннік падарыла наручны. А хлопцы давай дзеля смеху пытацца, колькі часу ды колькі часу. І так праз кожныя дзесяць хвілін. Ну дык пасля Садоўскі зняў гадзіннік з рукі і так ляснуў яго аб трактар, што і трактар мог рассыпацца, а не толькі гадзіннік.

А неяк цешча Садоўскага папрасіла курыцу засекчы.

— Не магу я сваё забіваць, — абурыўся той. — Не прынята ў нас такое. Подла гэта. Спачатку корміш жывёлу, а пасля забіваеш. Трэба, каб чужы засек хто. Папрасі іншых.

І сапраўды, у вёсцы сваю жывёлу ніхто сам не забіваў. Прасілі іншых. А як свінню калоць, дык гаспадар за вёску ўцякаў, каб віску не чуць. Але ж да птушак гэта не адносілася. Курэй то самі seklі. Таму цешча і пачала лямантаваць:

— Вось жа Бог даў зяця! Няма каму і курыцу засекчы.

Садоўскага гэта так раззлавала, што ён хапіў сякеру і ўсіх да адной курэй пасек, як дровы. Нават ні ў чым не вінаватаму пеўню жыццё не пакінуў. Каты пасля цэлы тыдзень курыныя галовы па вёсцы цягалі.

Гэты ўчынак зяця цешча вырашыла не пакідаць непакараным і напалохаць яго разводам з дачкой. І дачку падбухторыла. Тая прыйшла і кажа, што за тое, што маму пакрыўдзіў, развод — і маёмасць папалам. А Ігнат нават вокам не міргнуў. Папалам дык папалам, кажа. Узяў нож і парэзаў увесь хлеб, што быў у хаце, на дзве паловы. Затым тое самае зрабіў з салам. Пасля ўзяў пілу і напапалам разрэзаў стол і шафу, а таксама і тэлевізар. З тэлевізарам давялося яшчэ і сякеру задзейнічаць.

Убачыўшы ажно настолькі справядлівы падзел маёмасці, жонка адчула чарговую хвалю кахання да справядлівага мужа і са слязьмі на вачах прасіла пакінуць іх маладую сям'ю ў ранейшым выглядзе і пра развод забыцца. І нават цешча прасіла не разбураць сям'ю, бо вельмі баялася, што справа набліжаецца і да справядлівага падзелу хаты. А бензапілу «Дружба», зробленую на машынабудаўнічым заводзе імя Дзяржынскага ў расійскім горадзе Перм, Садоўскі ўжо прынёс аднекуль, і яна толькі чакала яго працавітых далоняў, каб завершыць справядлівы падзел матэрыяльных каштоўнасцяў...

Пасля гэтага выпадку ў маладой сям'і Садоўскіх надышла поўная ідылія. А вось цётка Нюрка дык не вынесла аніводнага ўрока з той сітуацыі ды працягвала нерваваць маладога трактарыста з-за нейкай недалітай бутэлькі самагонкі, якую яна яшчэ добра разбавіла сырой вадой. Невядома хто яшчэ далучыўся б да той спрэчкі і ці доўга яна цягнулася б і ці мірна скончылася б, але калі колькасць выказанага негатыву пачала перарастаць у якасць, стары Язэп крыкнуў так моцна, нібыта нага ў роварнае кола залезла:

— До ўжо! Раскаркаліся. Можа таму і трэба ісці на тыя выбары, каб палучку аддавалі? Ну ці прагаласаваць за таго, хто не забярэ твае грошы разам са зберкніжкай.

Язэпа паважалі ў вёсцы. І баяліся ў дадатак. З часоў вайны баяліся, як ён трох камендантаў замежных палажыў разам у зямлю з-за сваёй бабы. Невядома што больш: паважалі ці баяліся. Зрэшты, гэтае спалучэнне павагі і страху найбольш эфектыўна дзейнічае на навакольных. Пра Язэпа ўвесь час хадзілі аповеды як пра сама адважнага чалавека. Ды і разважліві быў заўсёды: лішняга не вып'е, лішняга не скажа, лішняга не возьме. Да кожнага яго слова прыслухаваліся. Але тут рассмяяліся дружным хорам, як на канцэрце сатырыкаў.

— Ну ты Язэп і загнуў, — урэшце супакоіўся ад смеху Лявон. — Во каб так было добра: прагаласаваў — і жыццё наладзілася. Але так не будзе. Няма значэння, за каго прагаласуеш. Усе падмануць. Хапала тут усялякага начальства. Але ніводнага добрага не было. Ну то і не будзе.

— Дык ты сам за каго будзеш галасаваць?

— А за каго скажуць, за таго і прагаласую.

— Дык не гаворыць ужо. Галасуй, за каго хочаш.

— А гэта найгорш. Ужо і за каго галасаваць не гавораць. Бо для нас як не ксёндз, то бацюшка. Каго прышлюць, за таго і прагаласуем.

— Але ж які поп, такі і прыход, — не пагадзіўся з яго развагамі Язэп.

— А для мяне розніцы няма вялікай, — даводзіў сваё суразмоўца. — Горш, як не ведаеш, за каго трэба. І няма ў каго спытаць.

— А табе і пытаць не трэба. Табе і так скажуць. Па тэлевізары скажуць. Бо вы галаву з тэлевізара дастаеце толькі каб выпіць, і зноў туды хаваеце, — махнуў рукой Язэп.

— Ну дык калі не піць па выхадных, то як аддзяліць адзін тыдзень ад другога? — аджартаваўся Лявон.

Язэп адвярнуўся і больш спрачацца не стаў.

— У зданяў спытай у Касабуцкім лесе, за каго галасаваць, як не маеш у каго, — жартаўліва засмяялася цётка Нюрка.

— Дык няма іх. Прапалі здані, — задуменна адказала цётка Маня. — Нават здані выверліся, а вы кажаце: выбары! Як тыя выбары аб'явілі, так тыя здані і прапалі. Як з канцамі ў ваду. Як карова языком злізала. Відаць, баяцца, што і іх галасаваць прымусяць.

Ды зарагатала. Ды ўсе зарагаталі.

І сапраўды... Зданяў у Касабуцкім лесе ўжо даўно ніхто не бачыў. Прапалі, як грошы са зберкніжкаў. І не развіталіся. І адрасу не пакінулі. Як Савецкі Саюз развaліўся, так і здані зніклі. Ці лепш сказаць будзе, што як толькі Беларусь абвясціла незалежнасць, дык тых і не стала. Можа, супадзенне, а мо знак які. Халера яго ведае.

Напачатку вяскоўцы, убачыўшы ў лесе перарытую зямлю, думалі, што яны вярнуліся зноў, тыя здані. Але пасля высветлілася, што гэта ўсё ж дзікі зямлю перавярнулі ў Касабуцкім лесе. Развялося іх у гэты час багата. Бо калгасы сталі развальвацца і перасталі хімію ўсялякую на палі выліваць. А хто меў які доступ, кладаўшчык які ці начальнік, той тую хімію кантрабандай валок у Літву ці Польшчу на продаж, як і цвікі, нямецкі, шнуркі для цюкавання, паліва, гарэлку і ўсё астатняе, да чаго доступ меў. І куча людзей на кантрабанду падсела ды больш нічога рабіць не хацела. Таму палі засталіся без хіміі, а лясы без браканьераў. Вось жыўнасць і перастала труціцца ды выводзіцца. Развялося столькі, хоць ты для іх другі лес высаджвай...

Раптам усе прыціхлі як па камандзе. Па дарозе ішла Света Барэль. Ішла з боку Касабуцкага лесу, на адным з ускрайкаў якога ўсё большы прастор адваёўвалі для сябе вясковыя могілкі.

Яна была ў жалобе, Святлана Барэль. Пра тое сведчыў вецер, махаючы падолам яе чорнай сукенкі, і сонца, затушваючы свае промні на такога ж колеру хустцы на галаве маладой жанчыны. Цёмная зямелька дапаўняла жалобны від, зліваючыся ў адно з яе чорнымі басаножкамі. Таму вяскоўцы і змоўклі. Так здаўна павялося на гэтай зямлі — з павагай да чужой бяды ставіцца.

Барэлі былі перасяленцамі з Чарнобыльскай зоны. Яшчэ маладая пара, працавітыя, руплівыя, закаханыя адзін у другога, поўныя жыцця. Як перасялілі іх сюды пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС, адразу ўзяліся будавацца, жыццё наладжваць на новым месцы, усё пачалі з нуля. Ды хутка рукі апусціліся, як абрэзаныя правады. Высветлілася, што іх адзінае маленькае дзіцятка моцна хворае. Знаёмы доктар па сакрэце сказаў, што ад чарнобыльскай радыяцыі.

Барэлі ратавалі дзіця, як маглі. Паднялі на ногі ўсю айчынную медыцыну, падключалі знаёмых лекараў, незнаёмым насілі хабар. Нічога не шкадавалі: ні сілаў, ні часу, ні сродкаў. Гэта і зразумела. І вяскоўцы грошы ім збіралі дзеля гэтага, і радня ўсё аддала, і сваё да апошняй капейкі зрасходавалі. Толькі марна. Як яны не ўцякалі ад чарнобыльскай бяды, яна іх нагнала нават на другім кутку Беларусі, за больш чым паўтысячы кіламетраў ад таго месца, дзе маладая пара ў каханні, марах і надзеях пачынала сваё сумеснае жыццё, нават не падазраючы, якая бяда падсцерагае іх у родным паветры ўласнай зямлі.

— Ну вось, спрачаецеся па дробязях, а пра сапраўдную бяду забываецеся, — уздыхнуў Язэп, калі Святлана прайшла ля іх.

— Гэты Чарнобыль шмат каго пагубіў, — уздыхнула Нюрка. — Вунь і ўчастковы пабег за ёй. Бо таксама хворы. Разам лекі шукалі. Дзяліліся імі. Таксама, відаць, не жылец ужо. А такі быў спрытны раней наш участковы... Ад баб ажно млеў. А як з Чанобыля вярнуўся, дык толькі п'е.

— Праўду кажаш, суседка, — памахала галавой Маня. — А мы сварымся абы за што. А людзі дзіця пахавалі. Ды і за бацькоў сваіх перажываюць. Іх старыя адмовіліся кідаць сваю вёску. Сказалі? там хочуць памерці, на радзіме. І засталіся на старасці гадоў сам на сам з той радыяцыяй, трасца яе вазьмі, без дзяцей, без падтрымкі. І скуль яна такая бярэцца, тая радыяцыя?

— Ды яе і тут хапае, — уздыхнуў Грыневіч. — Нават у Швецыі зафіксавалі прыборы. А дзе тая Швецыя?! А мы тут, пад бокам. То яшчэ наядзёмся той радыяцыі па самыя гланды.

— А вы кажаце: на выбары ідзі, — адазваўся Садоўскі. — Што, памогуць тыя выбары ад радыяцыі?!

— Табе ўжо нічога не дапаможа, — незадаволена буркнуў Язэп.

І тут Васіль Гудзей раптам страпянуўся, зноў пачуўшы пра выбары, і вярнуў прысутных да старой тэмы.

— Я ведаю, за каго галасаваць, — абвясціў ён.

— За каго?

— А я зараз вам газеты прынясу. «Навіны БНФ» называюцца. Там усё напісана. І пра Чарнобыль, і хто вінаваты, і як ратавацца ад радыяцыі, і за каго галасаваць. Мне сын Андрэй з Ірай тыя газеты прывезлі з Мінску, як прыязджалі ў госці. Там разумныя людзі пішуць, што і да чаго. Шкада, я адразу не прапанаваў іх Серадзе. Ён і сам пачытаў бы, і нам параіў бы што.

— А што нам Мінск? — уздыхнуў Віктар Міленя. — Мы тут самі сабе шляхта. І за каго прагаласаваць, разбяромся самі. Час яшчэ ёсць. Гэта бабы трапяюцца языкамі для весялосці. А мы ўжо навучаныя. Нас вучыць не трэба. Ты нам лепш раскажы пра сына. А то неяк яны з той Ірай у горадзе пажаніліся, а пасля тут завіталі ненадоўга, толькі каб вяселле адгуляць, і зноў у горад падаліся.

— Цяжкавата ім, — уздыхнуў Васіль. — Ён у мужчынскім інтэрнаце жыве, яна ў жаночым. Але ім сказалі, што як дзіця народзіцца, то сямейны інтэрнат дадуць. А дзіця ўжо хутка. Месяцы праз два з хвосцікам.

— Каб даў Бог здаровенькае, — перажыгналася Нюра.

— Каб даў Бог, — паўтарыла Маня.

— А што ў вёску не едуць? — спытаў Міленя.

— А што тут ім рабіць? — запярэчыла Алена Гудзей, якая таксама падцягнулася да кучы. — Хопіць я была дурная па маладосці ды не вырвалася свайго ў Мінск. А магла б. А так усё жыццё са свіннямі і пратупала. Так жыццё пражыла, як на свінні праехала. Хай хоць дзеці пажывуць. Вось дзіця народзіцца, інтэрнат атрымаюць, а там і кватэру. Так па крысе жыццё і наладзіцца.

— А мы ўжо з Уладзімірам ды Вольгай Саковічамі дамовіліся, як дзіця народзіцца, — пахваліўся Васіль. — Ужо з пакоямі дамовіліся ў гасцініцы «Беларусь». Там, у Мінску. У гэтай «Беларусі» сваячка наша працуе, Галя Дзікун. Абяцала ўсё арганізаваць. У нашых дзяцей пакуль свайго жылля няма, то пажывём у гасцініцы. Мы і ім кватэру ўжо знайшлі здымную. Калі яшчэ чарга да таго абяцанага інтэрната дойдзе. Хутчэй Садоўскі свой заробак за тры месяцы атрымае...

Аблічча Васіля ажно свяцілася ад радасці. Так свяцілася, што ўсе забыліся і пра пакуты выбару Серады, і пра выбары ўвогуле, і пра зданяў, і пра зніклыя зберкніжкі... Толькі пра дзяцей сталі гаварыць. Шмат у каго ўжо дзеці па гарадах раз'ехаліся. Так бы і гаварылі ды гаварылі, каб не прыляцеў, што вар'ят з клінікі, аграном на матацыкле і з такім жа вар'яцкім выразам твару зароў:

— Ну што за мітынг устроілі? Сабраліся тут, як кітайцы на суботніку. Сонца ўжо над галавой, а яны лясы точаць! А працаваць хто будзе, Пушкін?

— А хай хоць Троцкі, — пажартаваў Грыневіч. — Сёння першага траўня. У працоўных законны выхадны. А мы ж люд працоўны!

— Ты гэта калгасным каровам нядоеным і свінням някормленым раскажы, — адгукнуўся аграном. — Сваіх то накармілі, а не свае хай дохнуць? Так ці не?

Яго аргумент прагучаў моцна. Пераканаўча так прагучаў, як аглобляй па плячах.

Вяскоўцы хутка паразыходзіліся. Хто да кароў, хто да свіней, хто ў поле... Зразумела ўсім, што калгаснае — гэта не сваё. Але ж жывое. Нельга здзекавацца з жывога. Такое вось свята працоўных першага траўня. Як гавораць самі вяскоўцы, на вёсцы свята — гэта калі няма работы. А работа там ёсць заўсёды...



Фота ganc-chas.by

# Трымайся Духа аднаго!



Марыя БАРАВІК

***

*Я знаю — Неба ёсць! Я ў Неба веру.*
*На Небе не прадаць і не купіць.*
*Адкрытасць там. Адсутнічаюць дзверы.*
*І сэнс дзвярны ніколі не рыпіць.*
*У тым, што Неба ёсць — няма сумневу.*
*Яго заўважыць цяжка праз сумнеў,*
*Напоўнены іроніі напевам,*
*Дзе погляд шчасця-бачання не меў.*

***

*Мы ўсе тут людзі — не анёлы:*
*Адны — разумных жывёлы.*
*Другія?.. Колькі «звышразумных»!*
*Колькі каменных і атлумных!..*
*Як чалавек — душа, дык плача*
*Унутрана — я сэрцам бачу.*
*Святы! Дай самазахавання*
*Душы, якая — спачуванне!*

***

*Не ўсякая ўлада ад Бога.*
*Ад Бога — Божая ўлада,*
*Божая думка, Божы парадак.*
*У Бога — святла дарога.*
*Па ёй слова духу ідзе,*
*І ў радасці, і ў бядзе.*
*Не мучае Бог нікога.*
*У Бога — слову дарога.*

### Голас на Радаўніцу

*«Мама, касцёл гарыць! —*
*Нацыянальны санктуарый!..»*

*Імклівы голас у тэлефоне.*
*Дык звестка ў сэрца, дык прама ў скроні;*
*І чую слёзы на родным твары:*
*«Нацыянальны санктуарый!..»*
*Было агню ў нас і халадоў.*
*За доўгім часам — кароткі сказ:*
*«Гарыць касцёл!..». Праз пяцьсот гадоў?*
*Касцёл Будслаўскі? У гэты час…*
*«Касцёл — тут кажуць — не чалавек»,*
*Дык ён жа духам яго слыве.*
*І ўспыхнуў раптам жывым агнём.*
*Тут і цяпер? Святладайным днём.*

***

*«Гарыць касцёл у Будславе!..»*
*Кастусь Шыталь*

*«Ачышчэнне Бог дае. Толькі і ўсяго…*
*Новы пабудуюць. Нічога не адбылося*
*страшнага»*
*Людміла Андзілеўка*

*А мне, дык страшна, хутчэй балюча,*
*Што я не ўмею свой страх агучыць,*
*Страх: чым жывем мы і верым як.*
*Ці не пра гэта — нам Божы Знак?*
*Касцёл мы, ведама, адратуем.*
*Але духоўны пажар ці ўчуем?..*

**11 траўня 2021 г.**

### Трымайся Духа аднаго!

*1*
*Вунь дзеці паўлі ў задворак*
*Падсуднага. У вэрхал-гудзе…*
*У іх гульня: у пракурораў,*
*У суддзяў; зразумела — судзяць.*
*Я думаю пра іншых суддзяў:*
*Пра паўналетніх юнасуддзяў —*
*Першапраходцаў-грэхасуддзяў.*
*Пра іх прысуд нявінным людзям…*

*2*
*Ноч скарацела. Вялікдзень.*
*Хто Беларус — душа ў бядзе:*
*Чакае, што святла прыбудзе,*
*Дзень грамадзянскі час узбудзіць.*
*А ў вечнасць адыходзяць людзі.*
*З двара, з пасёлка, з Беларусі.*
*Ноч мая, ноч! З чым я прачнуся?*
*Якую вестку атрымаю*
*З зімы, з вясны, з прылёту мая?*
*Няўтульна на Радзіме, студзіць…*
*У вечнасць адыходзяць людзі:*
*І маладыя, і «старыя»,*
*З сябрыны з добрымі вачыма,*
*Хто словам абнімаў Айчыну.*
*Хто быў працягам,*
*хто — зачынам*
*Дарогі сэрца да Айчыны,*
*Трывогі, болю за Айчыну,*
*Пайшлі да вечнага спачыну.*
*Смакую наш зямны настой:*
*Дзе чыннік, вольны над усім,*
*Зары апамятнай прасіць*
*Не хоча (бач, не выйшла долі*
*На промень).*
*Дык ні гушчай солі,*
*Ні жарам слова, не прасі!*
*Хоць бі ў званы, хоць галасі —*
*Ты «кліну» рады не дасі!*
*Дык веру я: блюзнерскі «клін»*
*Збудзе некалі! Амін.*

*3*
*Уся зямля імкне да сонца.*
*З ёй — мы, паўторна і бясконца.*
*Глядзіць нязгасная Айчына*
*Ужо даследчымі вачыма.*
*А ў цемнаце стаіць пляткач,*
*Ім «асвятляецца» глядач…*

*4*
*Уночы, нібы незалежна*
*Ад смутку памяці маёй,*
*Вясна вывешвае мярэжу:*
*Пупышак мроіва на ёй.*
*У небе ціхім зорны невад.*
*За кронай, за кантрастам дрэва,*
*У хуткім праяўленні — дзень,*
*Ягоны бляск, ягоны цень,*
*Якому быць заўсёды трэба,*
*Які і сустракаць нам трэба.*

*5*
*Як слова ёсць — жыве Айчына!*
*Як голас ёсць — гучыць Айчына!*
*Дык Божы Голас, пра Свабоду:*
*«Яна цяпер такога роду,*
*Што не трымай яе ўнутры —*
*Пастаў адкрыта на вятры!*
*Як бел-чырвона-белы сцяг,*
*Што ўжо на покуце жыцця!*
*І барані! І барані!*
*Дык супрацьлеглую гані!*
*Адкрый сваю ты ў жыццясне:*
*Трымай свабоду — ад Мяне!*
*Хай будзе вечнай, несыходнай —*
*Яна твая Святая Годнасць.*
*Трымай! І дзея зла міне.*
*Тлумач свабоду ад Мяне!*
*Не дачыняйся да крыві,*
*Заўсёды мой сігнал лаві —*
*Я пільнасці табе паслаў:*
*Зрок — распазнаць прыкметы зла.*
*Ты мне не здраджвай, Чалавек!*
*Маё ў Тваім, гучы навек!*
*Стань Словам, і трымай Яго —*
*Трымайся Духа аднаго!».*

**2 траўня 2021 г.**

### Праліўся дождж

*І раптам, нібы з моцным пачуццём,*
*Праліўся дождж — струменьчыкамі цёк —*
*На дол, на аксамітнае жыццё.*
*Паверыла — мы ў Вялікдзе́нь расцём.*
*І так, як радасць з плачу, у дзіця,*
*Усмешка выйшла з сонца, у прасцяг.*

***

*Імгненны снег. Такі ідзе не суткі.*
*Раптоўны снег, як нібы не ў пару.*
*Каб гэткі во, ды з нас, людзей, чысцюткі,*
*Як тут, з-пад хмар'я, паўтарыўся рух.*
*Тут ясна — клімат. Ён кіруе рухам.*
*Дык ёсць жа іншы, што кіруе духам…*



Карціна Сяргея Шэмета

Сяргей БЕЛАЯР

# Народная ініцыятыва

## Фантастычнае апавяданне

*Калі вы хочаце*
*пабудаваць сацыялізм,*
*абярыце краіну, якую не шкада.*
***Ота фон Бісмарк (1815 — 1898)***

На гэты раз не было ні кур’ера дзяржаўнай фельд’егерскай сувязі са сталіцы, ні неабходнасці спальваць цалкам сакрэтны пакет з Міністэрства міністэрстваў на суседнім з Бульбянкаўскім сельсаветам узгорку Галгофа: у калгас «Бальшавіцкі ўгар» з велізарным эскортам завітаў ажно цэлы дэпутат рэспубліканскага парламента.

Па заведзенай яшчэ з савецкіх часоў традыцыі аб маючым адбыцца візіце высокага начальства папярэджвалі загадзя — каб «ахвяры» паспелі арганізаваць цёплы прыём: лазню з дзеўкамі, элітны алкаголь і дэлікатэсы. Ну і, вядома ж, дарагі прэзент у дарогу. Па адсутнасці тэлефоннага званка з райцэнтра старшыня Цевель з сэрцам, гатовым выскачыць з грудзей, заключыў, што нагода неабы-якая.

Гадаць аб прычынах не мела сэнсу, і старшыня загадаў сакратарцы Лізачцы Красуні куляй імчацца да заслужанай пенсіянеркі Барадулі і пад абяцанне выдаць у наступным годзе дадатковую сотку да асабістай гаспадаркі ўзяць самы лепшы каравай. А па соль бегчы да прадаўшчыцы мясцовага сельпо Клаўдзіі фон Дурэмбы — уласнай сталовай пры сельсавеце не мелася: персанал цягаў на працу «зсабойку», а супрацоўнікі Аддзялення правільнадумства і паводніцкага накіравання мас у складзе трыццаці васьмі лбоў сілкаваліся выключна ў асабліва прэстыжным рэстаране райцэнтра.

Рэспубліка для народа выяўляла незвычайны клопат аб прызначаных думаць пра простых людзей: «Mercedes-Benz S-600 Pullman» Цевелю даводзілася бачыць толькі ў амерыканскіх кінафільмах. Да па́ры лімузіну аказаўся і сам дэпутат: касцюм «William Westmancott Ultimate Bespoke», наручны гадзіннік «Patek Philippe Celestial» і туфлі «Moro Monk Strap» ад «Testoni». У клопаце пра людзей дэпутат не шкадаваў жывата свайго, з-за чаго раздаўся ў бакі настолькі, што пры садзейнічанні шасцідзесяці дзевяці памочнікаў і ста ахоўнікаў ледзьве выбраўся з люксавага лімузіна з узмоцненай падвескай.

— Сардэчна запрашаем! — сакратарка выдала сваю самую чароўную ўсмешку і з вялікім піетэтам падала дэпутату каравай. Заступнік людскіх інтарэсаў скрывіўся так, нібы яму паднеслі не хлеб з соллю, а чару цыкуты. Грэбліва адсунуўшы выпешчаным пальцам падрапаны алюмініевы паднос, прабурчэў:

— Архітэрміновая справа дзяржаўнай архіважнасці!

— Прашу ў мой кабінет… э… — старшыня не ведаў, як правільна звярнуцца да таго, хто ўсплыў наверх. А раптам абразіцца — кар’ерны рост рабіў чыноўнікаў крыўдлівымі звыш усялякай меры. Нават спецыяльны абаронны закон для сябе прынялі.

— Ромблен Даздрасмыгда Пячэгодавіч Дагнацій-Перагнацій, першы сакратар ЦК Партыі ўтаймавальнікаў капіталізму, — пахваліўся дэпутат, як быццам гаворка ішла аб Нобелеўскай прэміі. Не менш.

— Як? — асалапеў старшыня.

— Ромблен — гэта «рождён могущий быть леницем», — пачаў ахвотна тлумачыць дэпутат, выставіўшы грудзі з партыйным значком, на чырвоным фоне якога залацілася абрэвіятура ПУК. — Даздрасмыгда азначае «Да здравствует смычка города и деревни». Пячегод ёсць скарачэнне лозунгу «Пятилетку в четыре года». А прозвішча маё ўтворана ад архіўказання «Догнать и перегнать» з архігеніяльнай працы архітаварыша Леніна.

Старшыня толькі кіўнуў.

З сустрэчай у кабінеце тэт-а-тэт выйшаў канфуз: у Аддзяленні правільнадумства і паводніцкага накіравання мас пачаўся чарговы — па заканчэнні паўтара месяцаў — рамонт, і будаўнікі літаральна завалілі калідоры і лесвіцы сельсавета будаўнічымі матэрыяламі. Ды і ў дзверы — няхай і дзвюхстворкавыя — Дагнацій-Перагнацій усё роўна не прайшоў бы: занадта шырокі адбітак адклала на ім бяссоннае трыванне аб спадзевах простых людзей.

Выхад з далікатнага і небяспечнага для займаемай Цевелем пасады падказала Лізачка: дэпутата пры дапамозе вілачнага пагрузчыка «ТСМ», які дыхаў на ладан, паднялі на ўзровень вокнаў старшынёўскага кабінета, выкарыстоўваючы для зручнасці Дагнацій-Перагнацій драўляны еўрападдон…

— Архівышэйшым дэкрэтам загадана арганізаваць у Бульбянцы і бліжэйшых вёсках бальшавіцкую партячэйку, — адразу ўзяў быка за рогі дэпутат. Трымаць еўрападдон апальшчыку і вартаўніку пасля заўчарашняга святкавання Міжнароднага дня святлафора было вельмі цяжка: калыханне еўрападдона прымушала шчокі Дагнацій-Перагнацій куляцца з аднаго пляча на другое. А шчокі былі, як мяхі з бульбай. — Прыцягнуць моладзь.

— Бальшавіцкую? — залыпаў вачыма старшыня. КПСС загадала доўга жыць больш за трыццаць гадоў таму.

— Менавіта! — важна кіўнуў дэпутат. — Натаўскія танкі ляскаюць гусеніцамі ля самых нашых межаў. Крэйсеры NORDEFCO ўвайшлі ў вусце Нямунаса. Самалёты Цахала барозняць паветраныя прасторы па контуры Рэспублікі для народа. І анунакі з тэхнамасонамі вось-вось падцягнуцца.

— А бальшавікі тут пры чым? — удакладніў старшыня, беспаспяхова спрабуючы ўвязаць паміж сабой агрэсіўныя намеры Захаду і карлікавую партыю, пра дзейнасць якой у «Бальшавіцкім угары» ніхто ніколі і не чуў.

— Як гэта пры чым? — прыйшоў у жах дэпутат. І нават, як здалося старшыні, надзьмуўся ад абурэння. — Бальшавікі заўсёды наперадзе!

І не паспрачаешся: менавіта бальшавікі першымі кінуліся «прыхватызоўваць» маёмасць Савецкага Саюза ў другой палове васьмідзясятых. Рабуй нарабаванае, так бы мовіць.

— Толькі бальшавікі ў стане спыніць архіасатанелага імперыялістычнага монстра, выкармленага буржуінскімі рэптылоідамі і кіраванага доларавымі вампірамі-педэрастамі! — адчувалася, што Дагнацій-Перагнацій асядлаў любімага канька.

— Я вас зразумеў, — запэўніў старшыня і з сумам падумаў пра тое, што для ячэйкі ПУК давядзецца кагосьці высяляць з будынка сельсавета. Таварыства інвалідаў, напрыклад. Аддзяленне правільнадумства і паводніцкага накіравання мас дзяліцца лішкамі не захоча. Пастаянна ныюць, што няма дзе разгарнуцца.

— Архіра́ды таму, што мы знайшлі агульную мову, таварыш Цевель. Ядро бальшавіцкай партячэйкі абавязкова павінны скласці архіверныя справе сацыялізму сталінцы. Ці маюцца такія ў вашым калгасе?

— Двое, — абмежаваўся сухой канстатацыяй старшыня. Рашэнне не дагаворваць было прадыктавана інстынктам самазахавання: першым сталінцам лічыўся Марк Піўтэльмук, які выжыў з розуму, другім — гусенічны трактар С-65. Марк Піўтэльмук жыў у кардоннай скрынцы з-пад тэлевізара КВН-49, паколькі ад статуй, бюстаў, барэльефаў і карцін Сталіна месца ні ў хаце, ні ў двары не засталося. А трактар — ён і ёсць трактар…

— Архіцудоўна! — узрадаваўся дэпутат. — Людзі не могуць не адчуваць архівялікага патэнцыялу, закладзенага ў бальшавізме!

Старшыня ледзь стрымаўся, каб не закаціць вочы. Патэнцыял, скажа яшчэ. Што ні робяць, усё да горшага.

— Наша архіўплывовая партыя ПУК магла б, вядома, кінуць бальшавіцкі кліч. Сабраць пад архічырвоныя сцягі мільёны рэспубліканцаў, аднак важна, каб ініцыятыва адпору наркаманскаму агрэсару абавязкова ішла знізу: тады архіфашыстоўскія «контры» не абвінавацяць Партыю ўтаймавальнікаў капіталізму ў архіпрымусе грамадзян. Народ павінен сказаць сваё архіважкае слова!.. — дэпутат вельмі моцна жэстыкуляваў, і апальшчык з вартаўніком, якія аглоблямі падтрымлівалі еўрападдон, ні імгнення не заставаліся без руху: цэнтр цяжару пастаянна ссоўваўся, а выпусціць службовую асобу, ды яшчэ тую, каторая знаходзіцца пры выкананні… Камітэт Захавання Сацыяльнай Стабільнасці можа і замахам палічыць. А гэта — ужо тэрарызм. Расстрэльны крымінальны артыкул.

— Зразумела, вам спатрэбіцца фінансаванне… — шэсцьдзясят дзевяць памочнікаў дэпутата перадалі па ланцужку аб’ёмны металічны чамадан з кодавым замком. І старшыня з жахам падумаў пра тое, што будзе рабіць з венесуэльскімі баліварамі або з кубінскім песа. Маглі яшчэ быць паўночнакарэйскія воны. — Прывёз тут вам «кэш». Было архінайвысока загадана аказаць з дзяржбюджэта дапамогу новым таварышам.

Старшыня запытальна выгнуў брыво, і дэпутат з гонарам заявіў:

— Нашы людзі акапаліся ўсюды… Хутка ўсепланетарны з’езд ПУК. Патрэбен архіпадарунак.

Чамадан аказаўся біткам набіты новенькімі амерыканскімі доларамі: купюрамі наміналам у сто баксаў. Шляхам няхітрых вылічэнняў старшыня прыйшоў да высновы, што нават трацціны аднаго такога чамадана з лішкам хопіць на тое, каб вывесці ў сусветныя экспарцёры харчавання ўсе калгасы вобласці. А то і паловы Рэспублікі для народа.

— Гэтага павінна хапіць, — Дагнацій-Перагнацій маланкавым рухам дасведчанага чараўніка-ілюзяніста вывудзіў з пачкі купюру і кінуў старшыні.



Фота mk.ru

— Viva Bablo!.. А, не. Гэта толькі для сваіх… Няхай жыве сусветная бальшавіцкая рэвалюцыя!.. Вставай, проклятьем заклеймённый, весь мир голодных и рабов…

Старшыні давялося адкрываць рот, узмоцнена адлюстроўваючы ўдзел: слоў песні ён не ведаў.

«Інтэрнацыянал» заняў цэлую вечнасць, якую можна было выкарыстаць з куды большай карысцю, але радавацца заканчэнню песні старшыня паспяшаўся: Дагнацій-Перагнацій зацягнуў па новай:

— Вставай, проклятьем заклеймённый…

Дэпутацкага энтузіязму хапіла на сорак чатыры поўных паўтарэнні.

Старшыня, які адчуваў сябе так, як быццам у адзіночку разгрузіў чатыры вагоны мяшкоў з цукрам, не адразу паверыў, што какафанічнае а капэла нарэшце скончылася. І ў думках падзякаваў Богу. Катаванне больш жахлівае за дыбу будзе.

— Не падвядзіце Рэспубліку для народа, таварыш Цевель! — загадаў заступнік на шчодрым бюджэтным жалаванні. — ПУК супраць НАТА! Ленін — ПУК! Сталін — ПУК! Маркс-Ленін-Сталін — ПУК! ПУК! ПУК!

— Но пасаран, — буркнуў першае, што прыйшло ў галаву, старшыня.

У той момант, калі пагрузчык «ТСМ» з апошніх сіл пачаў павольны — на мяжы трываласці метала — спуск, дэпутат ускінуўся, і аглоблі выгнуліся пад небяспечным вуглом.

— Ледзь не забыўся. Вось вам архібальшавіцкая газета «Леніноід Бульбарусіі», — на падваконнік стараннямі шасцідзесяці дзевяці памочнікаў дэпутата лёг стос, вагой не менш за цэнтнер. — Адзінае дазволенае для члена ПУК чытанне. За іншае — расстрэльваюць.

— А…

— Калі не будуць браць — адключым на архіхер у Бульбянцы электрычнасць!.. І вось яшчэ што: неадкладна збярыце працоўных. Хай ніхто не кладзецца спаць да таго самага часу, пакуль статуя правадыра сусветнага пралетарыяту не будзе блішчаць, як у ката тэсцікулы. Людзі павінны ведаць, хто вызваліў іх з кайданоў архіпрымусу… Як у вас наконт суботнікаў, таварыш Цевель?

— Ну… — старшыня замяўся, таму што не любіў хлусіць. А хлусіць абавязкова давялося б: каму даспадобы прымусовая праца?

— З наступнага месяца ў мэтах паскарэння нястрымнага росту рэспубліканскай эканомікі архівысокім указам будуць уведзены абавязковыя нядзельнікі.

— Але… — сказаць, што людзям не спадабаецца, азначала не сказаць нічога. Як бы за вілы і сякеры не ўзяліся.

— Добраахвотныя, — падкрэсліў абаронца правоў народа. — Спісы сабатажнікаў у абавязковым парадку перадавайце ў Камітэт Захавання Сацыяльнай Стабільнасці. ПУК за светлую будучыню!

Дагнацій-Перагнацій да непрыхаванай радасці апальшчыка і вартаўніка з пачуццём глыбокага задавальнення і ўсведамленнем выкананага доўгу пакаціў, а абзадачаны старшыня пачухаў патыліцу. Ну і дзе яму ўзяць людзей для бальшавіцкай партячэйкі?..

— Міхей Фёдаравіч, вы бальшавіком запісацца не жадаеце?

— Бзплтн вно бдз? — галодным тонам удакладніў вартаўнік. Апальшчык таксама праявіў жывую цікавасць. Да старшыні абодва стаялі напаўпаварота, аднак гэта не выратавала Цевеля ад хвалі ядранага перагару. Ад такога і самому сур’ёзна захмялець можна.

— Пабойцеся Бога, Міхей Фёдаравіч! Калі гэта Савецкая ўлада раздавала нешта бясплатна?.. Тры шкуры здзяруць, яшчэ і павінен застанешся. Ніякага бясплатнага віна. І наогул нічога бесплатнага, што б бальшавікі не лілі дурням у вушы.

Заканчэнне на стар. 10 »

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 9

# Народная ініцыятыва

## Фантастычнае апавяданне

— Тды не, — і вартаўнік Вугалькоў адмовіўся.

Старшыня цяжка ўздыхнуў і выклікаў па інтэркому сакратарку.

— Якія яшчэ пукі, Сцяпан Мікалаевіч? — абурылася Красуня. — Я з раніцы толькі сунічны біяёгурт з'ела. Няма ў мяне праблемаў са страваваннем! Не нагаворвайце, бо звольнюся сягоння ж!

— ПУК — гэта Партыя, выбачай, Божа, утаймавальнікаў капіталізму, — спешна патлумачыў старшыня. — Бальшавікі, іншым словам.

— Ну нахер. Я хачу дзяцей завесці і з багатым мужам гора не ведаць, а не гібець у «камуналцы» і не тырчаць у чэргах, каб купіць брызентавыя трусы.

— Чаму брызентавыя? — не зразумеў старшыня.

— Таму што ніякіх іншых шыць не будуць. Аднаго фасону, колеру і аднаго памеру. І куленепрабівальныя — каб у іх у штыхавую атаку хадзіць можна было. Але з мячом.

— Чаму менавіта з мячом? — канчаткова зніякавеў старшыня.

— Хай з шабляй, — адмахнулася сакратарка. — Бальшавікі ж непрадказальныя. Яны і з палкай у бой пагоняць. Катэгарычна не!

Чагосьці падобнага варта было чакаць і ад першага «першага намесніка» Пухныша — «мажора» і рэдкаснага геданіста. Другога «першага намесніка» Алавяна прапанова таксама не зацікавіла: занадта дробны маштаб, залішне далёка ад фінансавых патокаў, і кіраваць неабходна жменькай балансуючых на мяжы страты розуму пенсіянераў і прышчавых студэнтаў малодшых курсаў.

Старшыня набіў рэчавы мяшок, які захоўваўся ў незгаральнай шафе на выпадак далёкіх палявых выездаў, «Леніноідам Бульбарусіі», і вырашыў перагаварыць з кожным кандыдатам асабіста: абодва першыя намеснікі прыдумалі б мільён чыннікаў не ўзвальваць на сябе неаплатныя абавязкі, а адрываць нармальных людзей ад працы старшыня лічыў дурным тонам. Спецыялісту парторг не патрэбны.

Чатырохмятровая пазалочаная статуя Леніна на двухмятровай вышыні гранітным пастаменце была на некалькі сантыметраў у таўшчыню пакрыта з'едлівым памётам — галубам і крумкачам незнаёма чалавечая крывадушнасць: птушкі шчыра выказвалі свае пачуцці да відавочнай недарэчнасці дыктатуры. Балвана даводзілася не толькі адмываць тройчы на дзень, але і прыцягваць спецыяльныя службы для звышпільнай паліроўкі: залаты бляск распацешваў погляды начальства.

— І на што толькі грошы трацім... — прыгнечана паківаў галавой старшыня.

Першым, хто трапіў Цевелю на вочы, аказаўся Вільгельм Тхор. Электрык, які сагнуўся ледзь ці не да самай зямлі пад цяжарам скрутка тоўстага кабеля, быў змрачнейшы за хмару.

— Які яшчэ, yábhati, бальшавізм, Сцяпан Мікалаевіч? — успыхнуў электрык. — Гэтыя хрэнавыя пралетарскія экспрапрыятары ўжо трэці раз за тыдзень кабель да фермы камуніздзяць! Зусім пра людзей не думаюць!

Не толькі не думаюць, але яшчэ і не шануюць, пацвярджэннем чаго служылі словы Цімафея Рацыка, вадзіцеля-вадавоза, якога старшыня сустрэў ля скрыўленай воданапорнай вежы. Савецкія інжынеры — ці то з-за банальнага недахопу «самай лепшай» савецкай адукацыі, ці то па п'яні — выбралі забалочаны ўчастак, і таму збудаванне з масіўнымі жалезнымі сярпом і молатам на даху пачало хіліцца ўжо ў першы ж дзень. Воданапорная вежа пагражала абвальваннем, а «Бальшавіцкі ўгар» нічога не мог зрабіць: у калгасным бюджэце не было грошай ані на знос, ані на рамонт.

— Дзед мой — адзіны, хто з усяго стралковага батальёна выжыў, распавядаў, што бальшавікі пад Ржэвам шэраговых байцоў пластамі ўкладвалі — так хацелі ўпыру рабому прыемнае зрабіць. Добра б яшчэ самі ў бой ішлі... Цьфу на ПУК!

Прапаноўваць «Леніноіда Бульбарусіі» — агідна звярстаны, зусім беззмястоўны лісток з графаманскімі вершыкамі ды інфантыльнымі ванітамі старшыня не стаў і ветэрынару Конаваловічу, які меланхалічна курыў на чатырох крывых бярвёнах — планы пабудаваць паўнавартасны мост праз Крывулю, агучаныя яшчэ пры Хрушчове, так і засталіся планамі: у СССР стала знаходзіліся больш важныя справы. Накшталт узбраення паўднёваамерыканскіх «герыльяс», якія абвясцілі святую вайну ЗША з-за таго, што злыя «піндосы» не давалі ім свабодна гандляваць какаінам, ці галазадым тубыльцам Афрыкі, якія, абпіўшыся бананавай гарэлкі, зрабілі Леніна святым канібальскім правадыром.

— Ніколі ў жыцці я бальшавіцкага партбілета ў рукі не вазьму! — злосна вымавіў ветэрынар. — Абодвух маіх прадзедаў чырвонажоп... камуністы кулакамі крывапітушчымі назвалі і расстралялі. А ўся іх віна ў тым, што пакуль ленінюкі і сталіністы ўсякія дэманстрацыі ладзілі і пасяджэнні праводзілі, абодва ад світання да глыбокай ночы працавалі, не верылі ў бальшавіцкія казкі. І магіл дзядоў не адшукаць, таму што камісары п'яныя былі і да опіюма на раніцу нічога ўспомніць не маглі.

Ля звалкі сельскагаспадарчай тэхнікі, якая назапашвалася ў «Бальшавіцкім угары» дзясяцігоддзямі з прычыны кароткага тэрміну працаздольнасці рэспубліканскага ламачча, старшыня сустрэў студэнта Яна Гранітагрыза. З ім дакладна павінна было выгараць: маладосці ўласцівы ідэалізм.

— Уступіць у ПУК? — перапытаў студэнт, перахапліваючы тоўсты том твораў Ніцшэ. — Не, выбачайце. Бальшавізм — нежыццяздольная грамадска-эканамічная фармацыя. Варта толькі скончыцца падсілкоўванню — нарабаванаму золату, нафце, пяцікалоннаму фінансаванню, адабранаму ў сялян збожжу, канфіскаванай маёмасці або выкрадзеным у ідэалагічных ворагаў тэхналогіям і зброі, — бальшавізм неадкладна ідзе ўразнос. Гэта — хімера, якая сілкуецца людской крывёй і чалавечым болем.

— Я чуў, бальшавікі перазагрузку абяцалі зладзіць. Нібыта прапануюць свету нешта новае.

— Бальшавікі нічога новага прыдумаць не могуць апрыёры. Таму што паразіты па сваёй сутнасці. Без корму не выжываюць.

— І газету не возьмеце? — рэчмяшок цягнуў да зямлі вагой магільнай пліты.

— Прабачце, Сцяпан Мікалаевіч, але цяпер не савецкі час: дэфіцыту туалетнай паперы не назіраецца. Ды і не думаю, што знайду ў рупары ПУК нешта разумнае і карыснае. Хутчэй ужо адчую вострае жаданне тройчы вымыцца гаспадарчым мылам. А пасля яшчэ і самым моцным антысептыкам абліцца.

Пастух Гнедыш, адганяючы нешматлікі статак кароў ад зваленых у бытнасць СССР у кучу мяхоў з салетрай, з дапамогай якой бальшавікі збіраліся падняць ураджайнасць, каторая пастаянна зніжалася з прычыны няўмелага сацыялістычнага гаспадарання, агучыў трывогу:

— Зноў усё па талонах будзе?

— Ну... — Цевель не памятаў, хто сказаў, што пабудова камунізму абавязкова заканчваецца ўвядзеннем прадуктовых картак. Пастух — даўно ўжо не дзіця, павінен усё разумець сам. Добрыя рэчы яшчэ трэба навучыцца рабіць. Бальшавікі вучыцца ані на чужых, ані на ўласных памылках упарта не жадалі. І нагадвалі дваровага хулігана, які здзекваецца з бадзяжнага ката — з мэтай даведацца, пераняе той дурную лютасць ці не.

Закамянелыя нітраты выклікалі маркотныя ўспаміны і нязручныя асацыяцыі — толькі ў Рэспубліцы для народа існавала Бітвазаўраждайнае міністэрства. І метад атрымання выніку з часоў калектывізацыі ніколькі не памяняўся.

— Трэба ў фон Дурэмбы хлеба на ўсе грошы купіць, — падзяліўся планамі Гнедыш.

— Сухарамі на ўсё жыццё не запасешся. І нацыяналізаваць іх могуць.

— Без гэтага бальшавізм не бальшавізм, — хмурна кіўнуў пастух. А старшыня з болем падумаў пра тое, што зямля без сапраўднага гаспадара памрэ і будзе аддадзена кітайцам пад таксічную звалку. — Бальшавікі — свядомыя згубіцелі... Вы ўжо загадайце Агурэні пабольш тытуню пасеяць, Сцяпан Мікалаевіч. Не дай Бог, зноў як пры гандо... Саветах апалае лісце, сухую траву і мох паліць будзем.

— Агурэня — фермер.

— Фермер не азначае ворага людзям.

Айцец Палімпедыст з Дэпрэсіі раскочваў па раёне на чорным «BMW X6»: дурманячае зелле заўсёды каштавала дорага. Старшыня махнуў святару рукой і на ўсялякі выпадак адышоў ад грунтавой дарогі, усё яшчэ не дабітай вучэннямі Міністэрства наступальнай абароны, падалей. Беражонага Бог беражэ.

— Чё? — прыйшоў у абурэнне айцец Палімпедыст, нават не даслухаўшы старшыню. — Мне? У ПУК? Пасля дваццаці пяці гадоў служэння ў ірваным вайсковым намёце на месцы ўзарванага чырвоназоркавымі ірадамі храма?

У такім шаленстве айца Палімпедыста яшчэ ніхто не бачыў. І не чуў ад яго гэтакіх слоў:

— Не даводзь да граху, старшыня. А то кадзілам уяб... а то гнеў Божы на цябе пральецца.

Анхеліта Рыдэр, загадчыца бібліятэчным фондам — вуглом у доме пенсіянера Пятра Звёздачкіна — старшыню выслухала ўважліва. Ні разу не перабіла і гэтак жа ветліва адмовілася станавіцца ПУКаўкай.

— Гэта нават абразліва, Сцяпан Мікалаевіч! — усклікнула Рыдэр. — Мы да гэтага часу не можам пазбавіцца ад саўдэпаўскай шарыкаўшчыны, а вы хочаце, каб зрабілася яшчэ горш!

— Нічога такога я не меў на ўвазе! — старшыня адчуў сябе апошняй паскудай: у той ці іншай ступені ад бальшавікоў пацярпелі шмат хто з жыхароў Бульбянкі. У бацькі Белсатава стрыечнага брата за дысідэнцтва тры з паловай гады трымалі ў псіхіятрычнай клініцы. Старэйшы сын Гядровіча загінуў у Афганістане. У прадзеда камбайнёра Пузікава бальшавікі канфіскавалі вадзяны млын, і добра было б, калі б карысталіся... Продкі Віюка збеглі ў Бульбянку ад голаду ва Украіне. Фобіч безвынікова спрабаваў пазбавіцца ад страху перад звычайнай хлоркай: у свой час камандуючы войскамі Тамбоўскай акругі Тухачэўскі выкарыстаў хлор для падаўлення сялянскага паўстання, у якім бралі ўдзел сваякі Фобіча па матчынай лініі.

Лагун. Рагноўскі-Гагагнюк. Ургін. Ран-Сілендор. Чапчыц. Даліла. Рак-Лабанаў... Спіс атрымліваўся доўгім. Занадта доўгім.

Цевелю нечакана моцна захацелася выпіць. Хай і не чыстага спірту ката Бегемота, але чаго-небудзь такога, што дапамагло б пазбавіцца ад змрочных думак. Калі адключыць эмоцыі і садзьмуць ідэалагічную шалупіну, у сухім астатку атрымаецца нуль. І нават мінус: і самая багатая краіна не зможа пераварыць бальшавізм. Рана ці позна разваліцца ўсё. Тут без варыянтаў.

Гарэлку і віно ў сельпо завозілі строга да рэспубліканскіх святаў, таму старшыня адправіўся прама да Брагінай. Нават чалавек, які ўпершыню трапіў у Бульбянку, лёгка адшукаў бы сціплы дом самагоншчыцы: аматары «вогненнай вады» пратапталі сцежкі да запаветнай хаты з усіх бакоў.

Ідучы праз кавуновае поле з нерэнтабельнымі, дробнымі, як агрэст, ягадамі, старшыня злавіў сябе на думцы, што бальшавізм нікуды і не сыходзіў з гэтай зямлі. Рэспубліка для народа была нават больш бальшавіцкай, чым бальшавіцкі СССР. Працу над памылкамі ніхто не зрабіў, таму жыццё ў Рэспубліцы для народа заставалася ранейшым.

Выжывальніцкім.

Брагіна паслужліва расчыніла дзверы на ўмоўны стук і адхіснулася, як вампір ад асвечанага часнаку.

— Літр! — запатрабаваў старшыня. І сумна ўсміхнуўся: самагоншчыца, у адрозненне ад таго ж Дагнація-Перагнація, не толькі пачуе кожнага, але яшчэ і дапаможа. Нават у доўг. І працэнт скідкі, які расце, пастаянным кліентам у Брагінай меўся. — Зінаіда Леанідаўна, а давайце я вас першым сакратаром Бульбянкаўскай партячэйкі Партыі ўтаймавальнікаў капіталізму прызначу. Рабіць нічога не прыйдзецца. Будзеце толькі ствараць разумны выгляд для фатаграфій у «Чырвонай Бульбарусіі» і лямантаваць, дзе толькі можна, пра агрэсіўны ляск натаўска-гейскіх гусеніц. А зряпла... заробак з рэспубліканскага бюджэта пабольш жалавання іншага буйнога IT-спецыяліста будзе. І ніякай адказнасці. Ні персанальнай, ні калектыўнай. Сінекура, адным словам.

— Я сваёй краіне зла не жадаю, Сцяпан Мікалаевіч. За «дарэмшчынай» не ганюся. І з сумленнем у згодзе хачу памерці.

— Хоць газету вазьміце. Мо дзе ў гаспадарцы спатрэбіцца: селядзец парэзаць. Ці бутэльку заткнуць.

— У мяне пляменніца ў райцэнтры ў кіёску «Рэспублікадруку» працуе. Дык яна дзвюхсоткілаграмовыя палукашкі з бальшавіцка-марксісцкай макула... партыйнымі выданнямі нават на прыёмцы не разразае: попыт на ідэалагічнае смецце нулявы — усё ўшчэнт спісваць даводзіцца. І з даплатай не бяруць.

— А вось нас прымушаюць па сто асобнікаў «Чырвонай Бульбарусіі» на сельсавет выпісваць, — панаракаў Цевель. — І яшчэ паўтысячы афармляюць на Аддзяленне Міністэрства правільнадумства і паводніцкага накіравання мас.

— Дык яны ані «Чырвонай Бульбарусіі», ані «Пентаграмы», ані «Аграрнага весніка», ані «Камуністычнай сцяжыны», ані «Пралетарскіх навінаў», ані «Вячэрняй камуны», ані «Калгаснага жыцця», ані «Рэспубліканскую раніцу», ані «Бульбу з бульбай», ані іншую афіцыйную халеру таксама не чытаюць — адразу Вугалькову аддаюць. Таму што дурасць увесь гэты бальшавізм. Ідыёцкая казка для тых, хто жыцця баіцца.

У сельсавет старшыня не вярнуўся. Падняўшыся на Галгофу, кінуў рэчмяшок на зямлю і ўзгрувасціўся на яго. Гарэлка ў Брагінай была вельмі мяккай — можна і бутэрбродам з вэнджаным салам не закусваць.

«Леніноід Бульбарусіі» адназначна адправіцца ў кацельню — не марнаваць жа паперу. А бальшавіцкая партячэйка...

Сто амерыканскіх долараў, атрыманых ад Дагнація-Перагнація, старшыня выдаткаваў на мясцовага пісьменніка Скрыптара Фантастыкуса. Ужо ў пятніцу ў «Леніноідзе Бульбарусіі» выйшаў артыкул на адзінаццаць з паловай палос максімальна дробным кеглем «ПУК знізу», у якой ананімны таварыш распавёў шырокай грамадскасці і ЦК аб падпольнай бальшавіцкай арганізацыі «Кумачовыя кальсоны», якая паставіла сваёй мэтай выпрацоўку ў рэспубліканскага народанасельніцтва імунітэту да ідэалагічна-рэлігійнага і пабытавага цемрашальства і бразгання зброяй, а таксама прапагандавала здаровы лад жыцця. Інкогніта байцоў было прадыктавана варожым асяроддзем.

Народная ініцыятыва так спадабалася бальшавікам, што Прэзідыум ЦК ПУК нават узнагародзіў Сцяпана Цевеля граматай і ўласнаручна злепленым Дагнаціям-Перагнаціем з пластыліну бюстам чырвонага рэвалюцыйнага бурата, хоць задумвалася авангардысцкая статуэтка як бюст Леніна.

А праз тыдзень, пасля ўсепланетарнага (сабраўшага ажно сорак два дэлегаты, з якіх трыццаць восем былі ад Рэспублікі для народа) з'езда ПУК, па заканчэнні справаздачы першага сакратара ЦК Дагнація-Перагнація, як і спадзяваўся старшыня, аб Бульбянкаўскай бальшавіцкай партячэйцы забыліся: лічбы заўсёды значылі для бальшавікоў нашмат больш, чым жывыя людзі. Ды і патрэба ў бальшавіцкай партячэйцы была часовай, выкліканай летнім абвастрэннем.

# Хведар Ільяшэвіч: паэт у «век бэнзыну й рэклям»

АК, budzma.by




Пачатак лістапада 1948-га. Заходняя Нямеччына. Лёгкае аўто знянацку вылятае на скрыжаванне... удар грузавіка! Паліцыя, пажарная, хуткая. У аўто былі чацвёра. Двое загінулі на месцы. Адзін па дарозе ў шпіталь — гэта быў паэт, крытык, палітычны актывіст Хведар Ільяшэвіч.

Як бачым, нават памёр Ільяшэвіч нетыпова для беларускіх паэтаў першай паловы ХХ ст. — у аўтакатастрофе. Звычайна ж сухоты, катарга ці куля ў патыліцу. Ільяшэвіч ва ўсім спрабаваў быць чалавекам новага часу. Таму замест жальбы выбіраў пафас барацьбы, замест вёскі — горад, замест рэфлексіяў — дзеянне.

Зборнік «Хведар Ільяшэвіч. Выбранае» выйшаў сёлета ў выдавецтве «Кнігазбор» у серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны». Упершыню пад адной вокладкай сабраныя вершы і проза аўтара, успаміны пра яго сваякоў і сяброў.

## «Турма давяла... Люблю выпіць, шмат куру»

Ільяшэвіч пачынаў таксама, як безліч ягоных аднагодак, — пакаленне актыўных беларусаў паствэрсальскай Польшчы. Рамантыка барацьбы, крыўда за адабраныя палякамі правы, амаль рэлігійная вера ў светлае заўтра:

*Беларусь! Прыбірайся ў краскі,*
*У песні бурнай і гучнай вясны!*
*Мы збудуем цябе, як у казцы,*
*Сьветлай, яснай, як нашыя сны!*

Радкі характэрныя: пад імі магло б стаяць прозвішча Танка, Васілька, Таўлая, Пестрака ці каго іншага. Будова «Беларусі сноў» пры Пілсудскім заканчвалася аднолькава — турмой. Легендарнымі віленскімі Лукішкамі. Туды Ільяшэвіч трапіў у 1927-м і правёў увесь 1928-мы.

Тут ён фармаваўся як асоба і паэт, назвы вершаў гучаць як радкі з песень: «Вучуся холаду ў сьцен», «Бразнулі з грукатам дзьверы», «У цэлі расьселісь халодныя змрокі», «На дварэ астрожным бура», «Стамілася беднае сэрца ад суму» і інш.

Чытаючы верш «Дазорца», напісаны праз год пасля вызвалення, здзіўляешся: ягоны псіхалагізм па-за часам. Мундзіры турэмных наглядчыкаў змяняюцца, а сэнсы — не:

*У яго душа зьліняла*
*Ад турэмнае жоўці муроў.*
*Бачыў ён, як з зубоў сьцякала*
*На каменным цамэньце кроў.*

*На пратэсты ён паясьняе,*
*Што ён мае дзяцей і дом.*
*І ля цэлі на 1-га мая*
*Доўга слухае, слухае ён.*

З турмы можна вызваліцца, але адпусціць з сябе — цяжка. Ільяшэвіч насіў яе ў сабе да смерці. Юры Жывіца, які пазнаёміўся з паэтам больш чым праз дзесяць гадоў, прыгадвае цытату Хведара: «...Турма давяла мяне да гэтага — люблю выпіць, шмат куру. Я ведаю, што гэта шкодзіць здароўю, але ўстрымацца не магу».

## «Век бэнзыну й рэклям»

У 1930-м Ільяшэвіч напісаў артыкул «Максім Багдановіч як пясьняр места». Цікавы ракурс: лірызм Багдановіча і дагэтуль супрацьпастаўлялі сацыяльнаму пафасу папярэднікаў, а вось тэма вёска/горад — нешта новае. Фрагмент назіранняў аўтара:

«У Цішкі Гартнага места зьяўляецца толькі мейсцам, дзе гібее рамесьнік і рабочы; <...>. У Цёткі тое самае. Багушэвіч-жа выводзіць места такім, якім яно прадстаўляецца праз прызму сялянскага гледжаньня. У Багдановіча места жывое: яно гарыць «рэклямамі», гудзіць рухам, дыхае «сьпёкай асфальту».

Такое ўражанне, што Ільяшэвіч напісаў пра сябе. З гэтым адкрыццём — нераскрытай у белліце тэмай горада і будучыні, якая на вачах стае рэальнасцю — ён пройдзе ўсе наступныя 1930-я. Адсюль у вершах фіялет рэклам, геаметрыя муроў, шкарлупінне дахаў, брук, па якім льюцца і сыплюцца гукі радыё, фарбаваныя дзяўчаты... Паэтам-нашаніўцам снілася вёска, якая і была для іх Радзімай. Беларусь Ільяшэвіча іншая: брукаваная, мураваная, захутаная дымам, перапаясаная рэйкамі-жыламі: «Сьніцца места, сьніцца места мне... / Глуха места шуміць, разьліваецца».

А вось яшчэ:

*Неба зрэзана — быццам паперка,*
*Дахі ў неба растуць наўкруг —*
*У вачох калышуцца мерна*
*Электрычныя зоры й рух...*

Горад не вёска. Не пазнаеш сустрэчных на вуліцы, яны — цябе. Гэта не замкнёны сусвет «Людзей на балоце», дзе кожны табе сваяк ці сусед. Тут кожны — незнаёмец, таямніца, пытанне. Тут можна выпіць не на свята, а наўпрост па настроі. Тут лёгка згубіцца. Іншыя пахі, гукі. І ўсё гэта захутана дымам цыгарэт і цягнікоў, напоена электрычным святлом:

*Ў людзкім гомане змора чуецца.*
*І ўжо хутка атуліць ноч*
*Тых дзяўчат (што прайшлі па вуліцы)*
*З падмалёванай сіньню воч...*

## Стымпанк і арт-крытыка

Нават інтымныя матывы ўжо ў іншых інтэр'ерах — без сенавалаў і купальскіх начэй: «...А яны-ж, чорт вазьмі, радыё слухалі разам. Ён адну слухаўку, і яна. І галовы іх былі так блізка. Яе валасы невымоўна пяшчотна казыталі яго твар...». Радыё ў слухаўках — разам! Гэта ж як у 90-я плэер ці цяпер — музыку са смартфона!

Ну, і канешне, цягнікі. Калі ў амерыканскай літаратуры месца дзеяння найчасцей у гатэльным нумары, то ў Ільяшэвіча — у цягніку, на станцыі, каля чыгуначных шляхоў. Традыцыйныя матывы «лугоў і гоняў» — толькі карцінка з акенца ў вагоне. Аўтара гэта заваражвала:

*Цягнікі і станцыі –*
*У шыбы – сонца сполахі –*
*Родная краіна – ты плывеш-плывеш –*
*Поле – апянае Купалам і Коласам –*
*Паясамі слуцкімі сцелецца ў бязмеж...*

Тэма горада цікава праходзіць і ў журналісцкіх нататках Ільяшэвіча. У зборніку ёсць рэпартаж з выставы Пятра Сергіевіча ў Вільні ў 1936-м. Тэкст уражвае сучаснасцю: аўтар ставіць выпадковыя цытаты з фуршэту, часам камічныя каментары да карцінаў. Сам жа піша, што Сергіевічу мала Вільні, трэба нешта большае — Парыж, напрыклад. Ці не кажа зноў пра сябе?..

Сёння Ільяшэвіча назвалі б хіпстэрам з ухілам у літаратуру і палітычны актывізм. Такім яно было — першае пакаленне беларускіх гарадскіх паэтаў 1930-х. Адно, што па савецкі бок з ухілам у пафас «вялікіх будоўляў», а па польскі — з разняволенай рэмаркаўскай тугой. Чысты канструктывізм: шэрая бетонная форма і жоўтае лісце на бруку ў промнях электрычнага ліхтара.

## «Дзядзя Хведар!.. Дзядзя Хведар!..»

На Захадзе, ужо па вайне, Ільяшэвіч працягваў пісаць у беларускія часопісы. Раптоўная смерць у 1948-м не дазволіла разгарнуцца на гэтай ніве. Тым больш, не дала часу на асэнсаванне свайго досведу, пісанне мемуараў. Што казаць — яму было ўсяго 38. Вось ягоныя позняя эміграцкія радкі:

*Залажыўшы рукі ў кішэні,*
*я пайду кантынэнты сустрэць —*
*пранясу праз руіны і сьцены*
*Беларусі кляновую медзь.*

На смерць Ільяшэвіча выйшлі артыкулы ў дыяспарных газетах, некалькі вершаў ад тых, хто ведаў асабіста. Ва ўспамінах з пахавання аднаго са сведкаў ёсць кранальны момант: дзеткі беларусаў-эмігрантаў бягуць за труной з плачам і крыкамі: «Дзядзя Хведар!.. Дзядзя Хведар!..»

Падобная жывая карцінка, мабыць, лепш сведчыць пра чалавека, чым колькасць кветак, вянкоў ці пазалоты на магільным крыжы.

Набыць кнігу «Хведар Ільяшэвіч. Выбранае» можна ў анлайн-кнігарнях knihi.by, kniganosha.by, tn.by і ў краме mmkut.by.

# «Генетычны алфавіт» Віктара Сазонава

Яўген ВАПА




Пад рэдакцыяй Праграмнай рады беларускамоўнага тыднёвіка ў Польшчы «Ніва» выйшла кніга гарадзенскага пісьменніка Віктара Сазонава «Генетычны алфавіт».

Мой жыццёвы і рэдакцыйны сябра проста ўразіў мяне маштабам і якасцю сваёй аповесці. Кожны чытач, які цікавіцца творчасцю гэтага аўтара, ужо ведае, што, як мала хто, умее ён апісаць беларускую ментальнасць з яе пераменамі ў вясковай і гарадской прасторы. Друкаваны на старонках «Нівы» і яе кніжных выданнях аўтар набыў не толькі агульнабеларускую зацікаўленасць, але і перакладаўся на польскую, венгерскую і ўкраінскую мовы. Думаю, што праз нейкі час ягоная творчасць будзе адкрытая і для тэатральных пастановак у самой Беларусі і па-за яе межамі. А мастацкае кіно на аснове прозы Віктара Сазонава прыцягне да экранаў і ўзрушыць кожнага гледача ў любой краіне. У Віктара проста неверагодная, сітуацыйная вобразнасць, якая ўмомант трансфармуецца перад вачыма ў другія мастацкія жанры. Універсалізм чалавечай сціпласці і хітрасці, годнасці і камізму спалучае людзей у зразумелай ім штодзённасці.

Для знаёмых аўтара не ёсць вялікай таямніцай факт, што аўтар яшчэ нядаўна ў вольных хвілінах любіў час ад часу класці і... фарбы на палатно. Мастацкасць і вобразнасць празаічнага і паэтычнага слова пісьменніка вызначаюць яго літаратурную адметнасць на фоне прыгожага беларускага слова...

Раман «Генетычны алфавіт» — гэта ахвяраванне ўсім беларусам, у якіх не пагасла мара аб свабодзе — той асабістай, але і нацыянальна-дзяржаўнай...

«Генетычны алфавіт» — гэта незвычайныя лёсы звычайных беларусаў, якіх гісторыя распачынаецца на фоне халоднай вайны паміж Савецкім Саюзам і Злучанымі Штатамі Амерыкі. Звычайная беларуская вёска, якая дваццаць пяць гадоў ад вайны памаленьку зажыўляе раны і дазваляе людзям цешыцца мірным жыццём і еймымі правамі, хаця пад камунізмам, але ўжо без штодзённага голаду. І з дзецьмі, для якіх шчасце — толькі ў горадзе. Тут аднак выпадкова прыйдзецца патрапіць у эпіцэнтр палітычных інтрыг і змагання амерыканскай і савецкай разведак. Закладзеная інтрыга, якая здзяйсняецца на працягу дваццаці пяці гадоў, у поўнай красе паказвае беларускі менталітэт з яго традыцыяй, страхамі, легендамі і надзеямі.

Створаны аўтарам свет літаратурных уяўленняў і персанажаў дае яму правы звацца адным з большых майстроў празаічнага запісу. Такога не было яшчэ ў беларускай літаратуры. Трэба толькі спадзявацца, што праз нейкі час будзем чытаць і радавацца далейшымі падзеямі ў чарговай частцы рамана.

Выданне кніжкі таксама мае сваю інтрыгу. Яе фрагменты друкаваліся ў «Ніве». Кніжка была гатовая да друку ў пачатку 2018 года. Аднак з-за нястачы фінансавых сродкаў тры гады набіралася моцы, каб урэшце парадаваць чытача. У міжчасе адбыліся падзеі, якія ўскалыхнулі беларускі народ і вывелі яго на вуліцы гарадоў, мястэчак, вёсак. Многія ў Беларусі і свеце ламаюць галовы: што такое здарылася з народам, які паказаў сваю мужнасць, чалавечнасць, нацыянальную адказнасць. І таму, відаць, воляй Божай выхад кніжкі адбыўся ў верасні 2021 года, каб адказаць на такія і падобныя пытанні.

«Генетычны алфавіт» Віктара Сазонава — проста ўніверсальная літаратура з нябеснай паліцы пра народ, з якога аўтар выйшаў і якому ахвяраваўся жыць усім сабою.

Кніга, якая мае амаль 750 старонак, аздоблена мастацкімі фотаздымкамі Паўла Грэся.

**P.S.** Тыя, хто не мае магчымасці набыць кнігу, змогуць паслухаць старонкі рамана ў эфіры «Радыё Рацыя» ў выкананні аўтара.

## Прэмія «Планета»

У Іспаніі ўручылі прэстыжную літаратурную прэмію «Планета» (Premio Planeta de Novela). Пераможцам і ўладальнікам мільёна еўра стала іспанская пісьменніца Кармэн Мола за раман «Звер».

На гэтым можна было б паставіць кропку, калі б не адзін нюанс: на сцэну па ўзнагароду выйшла не жанчына, а… тры мужчыны. Як выявілася, Кармэн Мола — гэта псеўданім, які прыдумалі Агусцін Фернандэс, Хорхэ Дзіяс і Антонія Мерсэра. Усе — даволі паспяховыя сцэнарысты, якія даўно працуюць на тэлебачанні. Але, відаць, пісьменніцкі жар у іх душах цепліўся даўно, і яны, аб'яднаўшы намаганні, сталі пісаць раманы.

Суаўтарам падабалася заставацца ў цені, «выставіўшы на амбразуру» таямнічую Кармэн Молу. «Гэта было вельмі зручна, нам падабалася. Мы былі абаронены ад прамой крытыкі і маглі працягваць жыць сваім звычайным жыццём, калі выходзіў новы раман», — распавёў у інтэрв'ю газеце «El Mundo» Хорхэ Дзіяс. Агусцін Фернандэс дадаў, што так чытачы маглі ацэньваць сам тэкст, пазбегнуўшы «апантанасці» аўтарам.

Усе трое адмаўляюць, што Кармэн Мола — гэта маркетынгавы ход: «Калі б раманы былі дрэнныя, ніякія псеўданімы і сакрэты аўтара не зрабілі б іх папулярнымі». Чым больш папулярнай станавілася Кармэн Мола, тым больш яны баяліся прагаварыцца. І былі вельмі радыя нарэшце адкрыцца свету.




Аўтары заўсёды пішуць разам, літаральна ў шэсць рук. Праца над новым раманам пачынаецца з плана, падобнага да вялікай табліцы. Пры гэтым у кожнага ёсць свой моцны бок. Па словах Хорхэ Дзіяса, Фернандэс выдатна прыдумляе павароты сюжэту, Мерсэра «адказвае» за літаратурную апрацоўку фраз. «Мы ніколі не спрачаліся, але гэта страшэнна складана», — патлумачыў Агусцін Фернандэс і дадаў, што яны навучыліся ставіць гісторыю наперадзе сябе — і гэта ключ да іх поспеху.

Раман «Звер», дзеянне якога адбываецца падчас эпідэміі халеры ў Мадрыдзе ў 1834 годзе, уяўляе сабой 500-старонкавы трылер з элементамі гістарычнага рамана і багаццем жорсткіх сцэнаў.

Нечаканае прызнанне мужчын было ўжо раскрытыкавана феміністкамі. У прыватнасці, экс-прэзідэнт іспанскага Жаночага інстытута Беатрыс Хімена назвала іх ашуканцамі. «Гэта не проста імя, гэта фальшывы профіль, які падманвае чытачоў і журналістаў», — напісала яна ў Twitter.

Прэмія «Планета» прысуджаецца з 1952 года іспанскім выданнем «Grupo Planeta» за лепшы раман на іспанскай мове ці кастыльскім дыялекце. Прэмія была створана заснавальнікам выдавецтва Хасэ Мануэль Лара Эрнандэсам. Уручаецца штогод у кастрычніку ў Дзень Святой Тэрэзы (жонка заснавальніка прэміі мела імя Марыя Тэрэза Бош). Цырымонія ўзнагароджання праводзіцца ў Барселоне. У фінансавым плане гэта другая (калі не першая) па каштоўнасці літаратурная ўзнагарода ў свеце пасля Нобелеўскай прэміі па літаратуры.

З 1974 года прэмія «Планета» ў памеры 150 000 еўра ўручаецца таксама за другі раман, які выйшаў у фінал.

## Букераўская прэмія

Гэтую галоўную прэмію англамоўнай літаратуры сёлета атрымаў Дэйман Гэлгут за раман «Абяцанне».

Кніга распавядае аб узаемаадносінах белай сям'і фермераў і іх чарнаскурай служанкі ў часы апартэіду ў Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы. Некалі галава сямейства абяцаў аддаць жанчыне, якая служыла ім верай і праўдай доўгія гады, свой дом. Але нашчадкі абяцанне не стрымалі. Сямейная сага ахоплівае чатыры дзесяцігоддзі.

«Я па-сапраўднаму, пакорліва ўдзячны», — сказаў у Радыёэтэры «BBC» Дэйман Гэлгут, атрымліваючы прэмію на цырымоніі ў Лондане.




Дэйман Гэлгут нарадзіўся ў 1957 годзе ў Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы. Гэта яго дзявяты раман. На думку крытыкаў, Гэлгут у сваёй творчасці працягвае традыцыі Уільяма Фолкнэра, Вірджыніі Вульф і нават Джэймса Джойса. На «Букера» яго намінавалі двойчы — у 2003 і 2010-м.

Пераможца атрымаў 50 000 фунтаў стэрлінгаў (каля 70 000 даляраў ЗША).

Букераўская прэмія ўручаецца з 1969 года. Яе ўладальнікамі станавіліся англамоўныя пісьменнікі з такіх краін, як Вялікабрытанія, Ірландыя, Аўстралія, Новая Зеландыя, ЗША, Канада, Нігерыя, Трынідад і Табага, Індыя і Ямайка.

## Ганкураўская прэмія

Сенегальскі пісьменнік Махамед Мбугар Сарр стаў лаўрэатам самай прэстыжнай літаратурнай узнагароды Францыі — Ганкураўскай прэміі.

Такое рашэнне прыняла Ганкураўская акадэмія, абраўшы лепшым франкамоўным літаратурным творам 2021 года яго кнігу «Самыя патаемныя ўспаміны».

Махамед Сарр нарадзіўся ў 1990 годзе ў Дакары ў франкамоўнай сям'і лекара. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Парыжы ў адной з самых прэстыжных навучальных устаноў Францыі — Школе перспектыўных даследаванняў у галіне сацыяльных навук.

Раман «Самыя патаемныя ўспаміны» — чацвёрты ў кар'еры 31-гадовага пісьменніка. Ён распавядае пра жыццё ў Парыжы маладой сенегальскай пісьменніцы, якая даследуе выдуманую кнігу «Лабірынты бесчалавечнага». Па словах літаратурных крытыкаў, раман Мбугар Сарра «стаў кнігай успамінаў пра каланіяльную эпоху, Першую сусветную вайну, Халакост, у якой праўда пераплятаецца з выдумкай».



Лаўрэатамі Ганкураўскай прэміі ў апошнія дваццаць гадоў станавіліся, у прыватнасці, такія вядомыя пісьменнікі, як Джонатан Літтэл і Мішэль Уэльбэк. Грашовае выражэнне Ганкураўскай прэміі чыста сімвалічнае — 10 еўра, але яе атрыманне істотна павялічвае продаж кнігі-пераможцы і, адпаведна, аўтарскі ганарар.

## Літпрэмія Уршулі Ле Гуін

Паводле паведамлення, апублікаванага на сайце амерыканскага Літаратурнага фонду Уршулі Ле Гуін, заснавана штогадовая прэмія імя вядомай пісьменніцы ў галіне мастацкай літаратуры.

У сваёй прамове на Нацыянальнай кніжнай прэміі 2014 года яна сказала: «Надыходзяць цяжкія часы, калі нам будуць патрэбныя галасы пісьменнікаў, якія могуць бачыць альтэрнатывы таму, як мы жывем цяпер, могуць бачыць праз нашае ахопленае страхам грамадства і яго дакучлівыя тэхналогіі… Нам спатрэбяцца пісьменнікі, якія памятаюць пра свабоду — паэты, летуценнікі, — рэалісты вялікай рэальнасці».

Прэмія Уршулі Ле Гуін будзе ўручацца за лепшы мастацкі твор, які выйшаў у Злучаных Штатах Амерыкі на ангельскай мове. Яе грашовы прыз складзе 25 000 даляраў. У выпадку, калі пераможцам стане аўтар перакладнога рамана, ён падзеліць гэтую суму з перакладчыкам.

Першая прэмія будзе ўручана 21 кастрычніка 2022 года — у дзень нараджэння Уршулі Ле Гуін.

«Шмат хто ацэніць іронію ў тым, што сама Уршуля з сумневам ставілася да літаратурных узнагародаў і прэміяў. У той жа час яна прызнавала іх сапраўдную каштоўнасць ва ўшанаванні пісьменніка і павелічэнні пазнавальнасці добрых, недаацэненых пісьменнікаў. Яна таксама ведала, што невялікая сума грошай і заахвочванне, атрыманыя ў патрэбны момант, могуць стаць паваротным момантам у здольнасці пісьменніка працягваць пісаць», — адзначыў сын пісьменніцы і кіраўнік Фонду яе імя Тэа Даунс Ле Гуін.

Працэс намінацыі на прэмію адкрыты для ўсіх жадаючых: чытачы, аўтары, прадаўцы кніг, выдаўцы, бібліятэкары і ўсе астатнія могуць намінаваць твор, які, на іх думку, адпавядае наступным крытэрыям: прэмія будзе ўручаная пісьменніку, чыя праца адлюстроўвае канцэпцыі і ідэі, якія займалі цэнтральнае месца ў творчасці Уршулі, уключна з роўнасцю, справядлівасцю і свабодай; ненасілле і надзею на мірнае вырашэнне канфліктаў; цэласны погляд на месца чалавецтва ў свеце прыроды.

Стаць лаўрэатам новай прэміі можна будзе толькі адзін раз у жыцці.



Фота ursulakleguin.com

## Цытаты літаратараў — у космасе

Капсулу часу з цытатамі паэтаў і празаікаў адправілі да траянскіх астэроідаў Юпітэра.

Паводле паведамлення NASA, са станцыі касмічных сіл у Фларыдзе адбыўся паспяховы запуск новай міжпланетнай станцыі Lucy. Запуск транслявалі на сайце NASA.

Галоўнай мэтай місіі з'яўляецца вывучэнне траянскіх астэроідаў Юпітэра з пралётнай траекторыі. Lucy стане першым касмічным караблём, які за 12 гадоў наведае рэкордную колькасць пунктаў прызначэння на незалежных арбітах вакол Сонца.

На борце станцыі знаходзіцца капсула часу — памятная металічная таблічка з цытатамі паэтаў, празаікаў, навукоўцаў, грамадскіх дзеячаў і дзеячаў поп-культуры і схема, якая паказвае становішча планет Сонечнай сістэмы на момант запуску станцыі.

Выгравіраваныя цытаты належаць лаўрэатам Нобелеўскай прэміі па літаратуры: празаікам Вользе Такарчук, Кадзуо Ісігура, Архану Памуку і паэтцы Луізе Глік, а таксама сучасным амерыканскім паэтам-лаўрэатам: Рыце Даў, Чарльзу Сіміку, Білі Коллінзу, Хуану Феліпу Эрэра, Джою Харыо, Амандзе Горман. Яшчэ тры цытаты належаць навукоўцам і папулярызатарам навукі Альберту Эйнштэйну, амерыканскаму астрафізіку Карлу Сагану і амерыканскай пісьменніцы, аўтару навукова-папулярных кніг Даве Собел. Таксама знайшлося месца і выказванню Марціна Лютэра Кінга.

А яшчэ на памятнай таблічцы ўвекавечылі словы вядомых музыкантаў і дзеячаў поп-культуры: Джона Ленана, Пола Макартні, Джорджа Харысана і Рынга Стара са знакамітага брытанскага гурта «The Beatles», Ёка Она і гітарыста гурта «Queens» Браяна Мэя (уладальніка вучонай ступені па астрафізіцы).

Літаратурная Беларусь
Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by
З новымі электроннымі нумарамі «Літаратурнай Беларусі», а таксама з яе мінулагоднімі выданнямі можна пазнаёміцца на інтэрнэтрэсурсах: novychas.online і kamunikat.org.